E-mail: nchas@promedia.by

# Новы Час

№ 3(8) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 19. 02 – 27. 02. 2003 ГОДА ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773

# Бурыданавы козы



Фота У. Шлапак

Пакольки пачаўся год Казы, дык міжвольна ўвагу прыцягваюць якасці характару гэтай істоты. Усе адзначаюць казіную паслухмянасць, цярплівасць, міралюбівы характар і карыснасць для яе гаспадароў. Можна сказаць, што гэтыя якасці проста спісаныя з менталітэту нашага народа. Падобна гэтаму статку коз, і мы стаім на раздарожжы, бясконца мяркуючы, дзе лепшы выпас – на Усходзе ці на Захадзе, і як туды патрапіць, не страціўшы нічога свайго. Некалі філосаф Бурыдан паведаў байку пра асла, які памёр з голаду, выбіраючы паміж двума ахапкамі сена. Лічыцца, што козы разумнейшыя за бурыданава асла, але не надта, бо на любым раздарожжы заўжды болей рызыкі, чым на ўласнай пожні.

Працяг тэмы на стар. 10, 12

## Падзеі

### Сэрцайка на ўспамін




Дзень святога Валянціна прайшоў традыцыйна. Па радыё гучалі песні пра каханне, гандаль перавыканаў план па продажы духоў, касметыкі, прысмакаў і лікёра-гарэлкавай прадукцыі, у пераходах метрапалітэна тусавалася болей, чым звычайна юнакоў і дзяўчат.

Традыцыйна на плошчы Якуба Коласа сабралася моладзь, запрошаная Маладым Фронтам, і адпаведна «людзі ў цывільным». Правядзенне маршу традыцыйна не атрымала дазволу гарадскіх уладаў, аднак маладафронтаўцы, прычапіўшы да вопраткі папяровыя сэрцайкі, традыцыйна рушылі ў бок Акадэміі навук, там адбыўся непрацяглы мітынг. На адваротным шляху міліцыя затрымала 6 чалавек, у тым ліку і лідэра Маладога Фронту Паўла Севярынца, відаць, каб ўручыць ім свае валянцінкі. Пэўна, атрымаюць затрыманыя адпаведныя валянцінкі і ад суда.

Пра тое, як трэба разумець запаветы св. Валянціна і як лепш любіць і кахаць, рэдакцыя папрасіла паведаць дасведчаных людзей.

Чытайце іхнія парады ў матэрыяле «Любіце і кахайце па-беларуску!»

на стар.14.

## У нумары



### Зварот Рады ТБМ да кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў на выбарах 2 сакавіка 2003 г.

Паважаныя сябры!

Ідзе нялёгкая перадвыбарная кампанія. Нашы людзі зняверыліся ў сваіх лепшых надзеях, шмат хто наогул не збіраецца ісці на выбары і спадзяецца толькі на самога сябе. Тым не меней, пад ляжачы камень вада не цячэ, і таму мы звяртаемся да Вас з прапановай браць удзел у выбарчай кампаніі па-беларуску, з пачуццём нацыянальнай годнасці.

Звяртайцеся да выбаршчыкаў на роднай беларускай мове, уключайце ў свае перадвыбарныя платформы пункты аб адкрыцці ў Вашай мясцовасці беларускамоўных класаў, школ, гімназій, студэнцкіх групаў і плыняў, афармляйце па-беларуску свае ўлёткі, лозунгі і плакаты – і Вы адразу адчуеце падтрымку тых, каму баліць душа за стан нашай мовы і культуры, хто хоча жыць у заможнай еўрапейскай дэмакратычнай краіне. Поспеху Вам і перамогі!

**Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

### Зварот Рады ТБМ да выбаршчыкаў у сувязі з выбарамі дэпутатаў мясцовых саветаў 2 сакавіка 2003 г.

Паважаныя сябры!

2 сакавіка ў нашай краіне адбудуцца выбары ў мясцовыя саветы дэпутатаў. Падчас агітацыйнай кампаніі, акрамя іншага, варта звярнуць увагу і на тое, наколькі кандыдат у дэпутаты адстойвае нацыянальныя інтарэсы сваёй краіны, як ставіцца да роднай культуры і мовы – асноўных чыннікаў нацыі і незалежнай дзяржавы.

Таварыства беларускай мовы заклікае падтрымаць тых кандыдатаў, якія ведаюць і шануюць беларускую мову, карыстаюцца ёю і спрыяюць яе пашырэнню. Менавіта ад гэтага залежыць, наколькі ён будзе бараніць інтарэсы народа - носьбіта духоўнага скарбу, інтарэсы незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь.

**Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

## У Гомелі для беларускай мовы няма «тэхнічнай базы»

12 лютага 2003 года сакратар Гомельскай гарадской тэрытарыяльнай камісіі Юлія Дзенісенка катэгарычна адмовілася друкаваць на беларускай мове біяграфічныя звесткі пра кандыдатаў у дэпутаты гарадскога савета Івана Яцкова і Андрэя Баранава.

«Адмову сакратар камісіі абгрунтавала тым, што ўсе іншыя кандыдаты напісалі звесткі для агульнага плаката на рускай мове, і дзеля двух чалавек выключэнне рабіць камісія не будзе – не дазваляе тэхнічная база», – кажа старшыня мясцовага аддзялення ПЦ «Вясна» Анатоль Паплаўны.

Такое неабгрунтаванае абмежаванне ў карыстанні роднай мовай, на думку праваабаронцаў, можна расцэньваць як факт адкрытай дыскрымінацыі. Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і Законам аб мовах, у Беларусі дзве дзяржаўныя мовы і грамадзянам нашай краіны заканадаўча гарантавана права карыстацца імі. Таксама і арт. 12 Выбарчага Кодэксу гаворыць, што «ўсе выбарчыя матэрыялы друкуюцца на беларускай і рускай дзяржаўных мовах», а «Закон аб мовах» у сваю чаргу накладае абавязак на ўсіх службовых асобаў валодаць мовай у межах, якія дазваляюць працаваць з людзьмі.

За такі абуральны факт дыскрымінацыі, які адбыўся ў Гомелі, Адміністратыўны Кодэкс РБ прадугледжвае магчымасць адміністратыўнай адказнасці. Штраф, які, згодна з арт. 172 п.2, пагражае сп. Дзенісенка (загадчыцы аддзела арганізацыйна-кадравай работы Гомельскага гарвыканкама), складае ад 5 да 10 мінімалак.

Аднак варта памятаць, што за моўную дыскрымінацыю беларусаў яшчэ ніколі нікога не штрафавалі і наўрад ці хто гэтага дачакаецца, бо гэта свядомая палітыка і ранейшай, і цяперашняй уладаў.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

## Памятныя дні

**15 лютага**

**Грамніцы** – народнае свята канца зімы. У народзе кажуць: «Прыйшлі Грамніцы - скідай рукавіцы». У рэлігійным календары гэтае свята супадае са Стрэчаннем.

**1748.** Нарадзіўся Ірэмія Бентам, англійскі філосаф і правазнаўца, які першым ужыў слова «інтэрнацыянальны».

**1936.** Дата нараджэння народнага нямецкага аўтамабіля – «Фальксваген», які цяпер вядомы па ўсім свеце. Дарэчы, мала хто ведае, што загад аб ягоным стварэнні выдаў Адольф Гітлер.

**1943.** У савецкай арміі ўводзяцца пагоны.

**16 лютага**

**1968.** У горадзе Хэйліві́ль амерыканскага штата Алабама з'явілася першая тэлефонная служба выратавання – знакамітая «911».

**17 лютага**

**1673.** У Парыжы, дзе і нарадзіўся, пайшоў з жыцця французскі драматург Жан Батыст Мальер, аўтар такіх слынных п'есаў, як «Дон Жуан», «Тарцюф» і «Хітрыкі Скапэна».

**1863.** У Жэневе заснаваная арганізацыя Міжнароднага Чырвонага Крыжа. Напачатку яна паўстала як добраахвотнае таварыства дапамогі ваеннапалонным, хворым і параненым вайскоўцам.

**1963.** Нарадзіўся самы выбітны баскетбаліст у свеце Майкл Джордан. Будучы навічком у НБА, набраў за сезон 2.313 ачкоў.

**18 лютага**



**1893.** Нарадзіўся вядомы беларускі пісьменнік Максім Гарэцкі. Ягоныя творы вывучаюцца сёння ў школах, у Мінску ёсць вуліца Гарэцкага. Праўда, не ў цэнтры горада, а ў мікрараёне Сухарава.

**1913.** Пэдра Ласкуран устанавіў палітычны рэкорд. Пабыўшы ў якасці прэзідэнта Мексікі ўсяго гадзіну. Пасля прыняцця прысягі ён пайшоў у адстаўку і прызначыў пераемніка.

**19 лютага**

**1473.** Нарадзіўся польскі вучоны Мікалай Капернік, аўтар тэорыі геліяцэнтрычнай мадэлі Сусвету: гэта значыць Зямля абарачаецца вакол Сонца, а не наадварот. І калі Каперніку за гэта нічога не было, то Джардана Бруна, які даводзіў, што геліяцэнтрызм – гэта слушна, быў спалены інквізіцыяй на вогнішчы. Гэта здарылася 17 лютага 1600 года.

**1878.** Амерыканец галандскага паходжання вынаходнік Томас Эдысан запатэнтаваў грамафон.

**1908.** Нарадзіўся беларускі пісьменнік Станіслаў Шушкевіч, рэпрэсаваны ў 1937 годзе. Гэта бацька палітыка Станіслава Шушкевіча, колішняга спікера Вярхоўнага Савета, за якім Беларусь здабыла незалежнасць.

**20 лютага**

**1918.** Выканаўчым камітэтам Рады Усебеларускага З'езда прынятая Першая Ўстаўная грамата да народаў Беларусі. Паводле гэтага дакумента, Беларусь набывала статус аўтаномнай рэспублікі ў складзе Расіі. Пра незалежнасць Беларусі гаварылася ў Трэцяй устаўнай грамаце ад 25 сакавіка, вядомага як Дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

**21 лютага**

**1993.** У Данецку Сяргей Бубка ўстанавіў сусветны рэкорд па скачках з шастом. Ён скакнуў на 6 метраў 15 сантыметраў.

**22 лютага**

**1788.** У Гданьску (тады Данцыгу) на свет з'явіўся нямецкі філосаф-ідэаліст Артур Шапенгаўэр. Яшчэ адзін нямецкі мысляр Фрыдрых Ніцшэ ўважаў яго за настаўніка. Песіміст Шапенгаўэр памёр у адзіноце (з ім жыў толькі пудзель) у Франкфурце-на-Майне ад пнеўманіі.

**23 лютага**

**1928.** У Заходняй Беларусі, дакладней, у Вільні, польскія ўлады распачалі судовы працэс над паўсотняй дзеячаў Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

**24 лютага**

**1938.** У амерыканскім Арлінгтоне ўпершыню выраблены нейлон, які першапачаткова выкарыстоўвалі выключна для вырабніцтва шчацінаў у зубных шчотках.

**1988.** У Нямецкай оперы гледачы апладзіравалі Лучана Паварроці цэлую гадзіну і яшчэ сем хвілінаў. Легендарнага спевака выклікалі на сцэну ажно 165 разоў.

**25 лютага**

**1723.** Памёр Крыстофер Рэн, англійскі архітэктар, які пабудаваў аж 53 цэрквы ў Лондане. У тым ліку знакаміты сабор святога Паўла.



**1873.** Нарадзіўся вялікі оперны тэнар Энрыка Карузэ. Ён спяваў у найвядомейшых операх у найвядомейшых тэатрах свету – у неапальскім Teatro Nuovo, у лонданскім Covent Garden і нью-йоркскім Metropolitan Opera.

**26 лютага**

**1848.** 30-гадовы Карл Маркс і 28-гадовы Фрыдрых Энгельс, якія пазнаёміліся ў 1845 годзе ў Парыжы, публікуюць у Брусэлі Камуністычны маніфест. Ад гэтай пары «здань камунізму» і па ўсім свеце.

**27 лютага**

**1918.** У Маскве праходзіць вечарына з выбарамі «караля паэтаў» у Расіі. Ён абіраўся ўсеагульным тайным галасаваннем усіх прысутных. «Каралём паэтаў» стаў Ігар Севяранін, другое месца заняў Уладзімір Маякоўскі.

**1943.** Паставлены крыж на фашысцкай праграме распрацоўкі ядзернай зброі. Шасцёра нарвежскіх камандас узарвалі ў Нарвегіі адзіны ў свеце на той час завод па вытворчасці цяжкай вады.

Кірыла ПАЗНЯК

# Сукупна даможамся!

Барыс Мітрафанавіч Драздоўскі – інжынер аўтаматычнай электрасувязі. Скончыў электратэхнічны інстытут сувязі ў Маскве. Працуе намеснікам начальніка аб'яднанай службы тэлемеханікі і сувязі ўпраўлення электраэнергетыкі. У мінскім мікрараёне Серабранка жыве амаль 30 гадоў.



**– Якія, на вашу думку, важнейшыя праблемы ў мікрараёне сёння?**

– Складаная праблема – адносіны саміх жыхароў да шляхоў паляпшэння дабрабыту. Само расце толькі пустазелле. Каб дабіцца паляпшэння жыцця і ў мікрараёне, і ў краіне, трэба каб кожны прыклаў намаганні. А не чакаў, калі нехта нешта прынясе ці дасць.

Важная праблема – якасць вады, што трапляе ў кватэры. Яна бывае іржавая, а то нават і чорная. Калі мы плацім грошы, то гэта ўжо тавар, які павінен адпавядаць стандарту. Існуе значная праблема садкоў і школ. З гарадскога бюджэту выдзяляецца недастаткова грошай нават на касметычны рамонт, не кажучы ўжо пра закупку паперы, кніжак, цацак. З маладых сямей бяруцца паборы для вырашэння гэтых праблем. Ёсць пытанне выкарыстання грошай, якія мы штомесяц плацім на капітальны рамонт дамоў. У мікрараёне некалькі тысяч кватэр, дзе людзі маюць магчымасць глядзець усяго тры каналы тэлебачання. У нас ужо ёсць пэўныя поспехі ў вырашэнні такога роду праблем. Дзякуючы працы партыі БНФ асобыя пытанні, якія маюць сацыяльнае значэнне, у Серабранцы вырашаны. Функцыянуе мінірынак «Серабранка», які ўлады планавалі зачыніць яшчэ ў 1997 г. Двойчы, у 1998 і 2002 г., мы з дапамогай жыхароў не дазволілі ўпраўленню транспарту Мінгарвыканкама закрыць аўтобусны маршрут № 8. У 2000 г. улады хацелі знішчыць Лошыцкую садова-паркавую сялібу і забудаваць тэрыторыю дамамі для багатых людзей. Дзякуючы мэтанакіраванай працы было спынена знішчэнне Лошыцкага саду і гістарычнай сялібы. Гэтым мы, акрамя ўсяго, не дапусцілі яшчэ і пагаршэння экалагічнай сітуацыі ў раёне камвольнага камбіната і Серабранкі.

**– Якія адносіны жыхароў раёна да Вашай дзейнасці?**

– Нашымі прыхільнікамі становяцца людзі, якія далучаліся да працы па вырашэнні сацыяльных пытанняў раёна. Мы шануем іх давер, лічым, што людзей падмануць удаецца толькі адзін раз. Пры паўторным падмане даверу ўжо не атрымаеш. І гэтыя людзі, якія ўдзельнічалі ў вырашэнні сацыяльных праблем, з'яўляюцца патэнцыялам для росту нашай арганізацыі.

**– Карыстаючыся выпадкам, што б Вы хацелі сказаць выбаршчыкам?**

– І беспрацоўе, і інфляцыя, рост цэн на камунальныя паслугі і жыллё пры нізкіх заробках існуе дзякуючы нашай пасіўнасці і абыякавасці, адсутнасці веры ў магчымасць змен да лепшага. Хачу пажадаць усім жыхарам Серабранкі дабрабыту і здароўя. Не трэба траціць ні веры, ні надзеі ў тое, што жыццё мы палепшым. Але гэта адбудзецца толькі ў тым выпадку, калі мы будзем разам!

Алена АМЕЛЬЧЫЦ

# *Гэты страшны звер – дэкларацыя*

Напярэдадні выбараў у мясцовыя саветы ўлады прыдумалі новы спосаб недапушчэння да ўдзелу ў выбарах непажаданых асоб, і ўвялі ў пералік неабходных для рэгістрацыі дакументаў дэкларацыю аб даходах і маёмасці.

Здаецца, якая розніца для выбаршчыкаў, ці мае машыну ці прычэп да яе кандыдат у дэпутаты, альбо які памер яго гадавога заробку? Галоўнае, каб гэта быў сумленны, адукаваны, прынцыповы чалавек з актыўнай жыццёвай пазіцыяй.

Аднак менавіта такія людзі ў мясцовых саветах і, асабліва, у Мінскім гарадскім савеце, і не патрэбныя. Бо менавіта яны могуць запытаць у мясцовай улады, чаму, напрыклад, у цэнтры Мінска ламаюць добры, якасны асфальт і замяняюць вельмі дарагой пліткай, у той час, калі шмат якія двары і вуліцы ў мікрараёнах горада даўно патрабуюць рамонту, а некаторыя нават не заасфальтаваныя, і таму аўтобусы там не ходзяць.

Вось што кажа кіраўнік ЦВК спн. Л.Ярмошына на старонках газеты «Звязда» ад 31 студзеня: «Самае тыповае парушэнне – гэта падача недакладных дэкларацый аб даходах і маёмасці. Прэтэндэнты на дэпутацкія пасады часта ўказвалі ў дэкларацыях няпоўныя звесткі. Прычым гэта часта рабілася не наўмысна, а з-за прававой непісьменнасці кандыдатаў у дэпутаты». І далей «...што датычыцца, напрыклад, дэкларацый аб даходах, то любая навінка прыводзіць да вялікай колькасці парушэнняў».

Адразу варта пагадзіцца са спадарыняй Ярмошынай і прама спытаць у яе, чаму ж тады ЦВК спачатку даручыла ў сваёй пастанове ад 16 снежня 2002 года № 36 пункце 1 тэрытарыяльным акруговым выбарчым камісіям пры неабходнасці даваць кансультацыі аб парадку запаўнення вышэйзгаданых дэкларацый, але ніякіх інструкцый на гэты конт не зрабіла?

Так, напрыклад, акруговая камісія Ленінскага раёна г. Мінска не ведала, як гэта рабіць, і ніякіх кансультацый не давала. Больш таго, дэкларацыя складаецца так, што ўпершыню без інструкцыі правільна запоўніць яе практычна немагчыма. Напрыклад, ці трэба там пісаць колькасць чэкаў «Маёмасць», якія ляжаць дома і даходу не прыносяць? Або ці трэба ўказваць палічаны ў нейкім выдавецтве ганарар, які не атрыманы, бо ў выдавецтва няма грошай яго выплаціць?

Такім чынам, усё вельмі проста. У «сваіх людзей» дэкларацыі можна навогул не правяраць, бо дзейнасць камісій, у якіх няма прадстаўнікоў апазіцыйных партый, кантраляваць немагчыма, а вось «непажаданыя людзі» заўжды трапяцца на «дэкларацыйны кручок» і будуць адхілены ад выбарчай барацьбы. Таму і пацярпелі ў Мінску найбольш вядомыя людзі, якія мелі магчымасць перамагчы ў сваіх акругах нават у першым туры.

У сувязі з гэтым паўстае пытанне: ці варта выбаршчыкам, якія паставілі свае подпісы за канкрэтнага кандыдата і якога адхілілі ад удзелу ў выбарчай кампаніі па вельмі сумніўных прычынах, наогул браць удзел у выбарах без выбару? Можа, лепей на іх не хадзіць, бо калі выбары не адбудуцца, гэты кандыдат зможа ў іх удзельнічаць пазней, з ужо «нармальнай» дэкларацыяй.

Алег ТРУСАЎ

## Паведамленне птушкам




Фота У. Шлапака

# Вырашаць праблемы простых людзей

*Зялёны Луг мусіць стаць узорам бяспекі і экалагічнай культуры для ўсяго Мінска*

У сітуацыі, калі амаль штодзень прыходзіцца сутыкацца з несправядлівасцю ў дачыненні да простых людзей, слова дэпутата можа прынесці больш плён, чым любая іншая дапамога. Так лічыць Алесь Бяляцкі, старшыня грамадскага аб'яднання Праваабарончы цэнтр «Вясна» і кандыдат у дэпутаты Мінскага гарсавета. Дэпутацтва дазволіць, на яго думку, вырашаць простыя людскія праблемы на іншым узроўні.



**– Па якім раёне Вы вылучаецеся і якія людзі Вашыя выбаршчыкі?**

Мой раён – гэта Карбышаўская акруга №46, раён Зялёнага Луга, вуліцы Каліноўскага, Сядых, Карбышава і Цікоцкага. На першы погляд здаецца, што гэта экалагічна чысты і адзін з лепшых раёнаў горада. Але калі больш пільна прыглядзецца, аказваецца, што гэта сапраўды закінуты ўскраек Мінска, пра які выканаўчая ўлада і адміністрацыя горада амаль забыліся. Я прагледзеў план рэканструкцыі і капітальнага рамонту ў Мінску на 2003 г. Выразна бачна, што гарадскія ўлады значную частку сродкаў выдаюць на выгладжванне, вылізванне цэнтра горада, ствараючы «пацёмкінскую вёску». Усё, што знаходзіцца далей праспекта Скарыны, застаецца ў занядбаным стане, а праблемаў сапраўды шмат.

Вуліцы Сядых і Каліноўскага – гэта суцэльныя хрушчоўкі, дзе востра стаіць праблема элементарнага выжывання людзей. Кватэры, у якіх жывуць з большага пенсіянеры, вільготныя, халодныя, не трымаюць цяпла, не добраўпарадкаваныя двары і пад'езды. Міні-рынак, які знаходзіцца каля кінатэатра Вільнюс, топіцца ў брудзе, а каля водаканала, які дзеліць раён на дзве часткі, зграямі бегаюць пацукі. Міліцыя ставарае толькі выгляд пэўнага парадку і амаль не надае ўвагі сітуацыі ў дварах. Людзі скардзяцца, што ноччу страшна хадзіць. Забітыя падвалы, неадрамантаваныя пад'езды, кепскі транспарт – усё гэта складае штодзённае жыццё гараджан. І капітальны рамонт гэтых хрушчовак у бліжэйшы час не плануецца. Першамайскі раён у гэтай праграме знаходзіцца на перадапошнім месцы. А тое што людзі жывуць у кватэрах, якія фактычна не прыстасаваныя для жыцця і баяцца адчыняць вокны, бо могуць вываліцца гнілыя рамы, гэта нікога не хвалюе.

Трохі лепшая сітуацыя на вуліцах Карбышава і Цікоцкага. Там панельныя дамы пабудовы 1980-х гадоў. Але яны страшна халодныя, бо тое цяпло, якое ідзе ў кватэры, фактычна грэе паветра.

**– На Ваш погляд, усё гэта пасілу вырашыць дэпутату?**

– Гэтыя бытавыя праблемы, як мне падаецца, для дэпутата мясцовага савета павінны быць праблемай нумар адзін. Таму што дэпутат – гэта пасярэднік паміж простымі людзьмі і выканаўчай уладай. Калі просты чалавек не можа дастукацца са сваімі праблемамі, то дэпутат, які ў Мінску прадстаўляе 25 тысяч выбаршчыкаў, мае паўнамоцтвы і легітымнасць, каб дапамагчы яму, і ён мусіць гэтым займацца.

У дадзенай сітуацыі мяне нават асабліва не хвалюе, што я сябра Саюза пісьменнікаў і актыўна займаюся грамадскай дзейнасцю. Бытавыя праблемы простых людзей – тое, што мяне клапоціць і сапраўды мне цікава. І калі мы даб'емся нейкіх паляпшэнняў па вышэй пералічаных пытаннях, то я б меў пэўнае маральнае задавальненне. Таму я гатовы гэтым займацца не толькі на словах, але і на справе.

**– Якія праблемы вырашаюць дэпутаты акрамя бытавых?**

– Апроч праблемаў бытавых і сацыяльных дэпутаты гарсавета будуць вырашаць больш глабальныя праблемы звязаныя з агульным развіццём горада, транспарту, паступленнем інвестыцый і зацверджаннем гарадскога бюджэту. Гэта тое, што важна для падтрымання гаспадаркі горада. Тут я бачу важным прыцягнуць у Мінск інвестыцыі, якія б у першую чаргу працавалі на развіццё дробнага і сярэдняга бізнэсу. І гэта безумоўна пацягне за сабой паляпшэнне агульнага стану ў горадзе і створыць дадатковыя працоўныя месцы.

Ядвіга МАЦКЕВІЧ

# Падмурак паразумення

Валянціна Трыгубовіч – чалавек незвычайнага і, бадай, шчаслівага лёсу. І хоць жыццё не песціла – двух сыноў «ставіць на ногі» давялося самой, – змагла удала сумясціць выхаванне хлопцаў з кар'ерай у журналістыцы. А яшчэ была грамадская праца: памочнік дэпутата ў Вярхоўным Савеце 12 склікання, рада Беларускага праваслаўнага брацтва Трох Віленскіх мучанікаў, старшыня Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Беларуская перспектыва», член Саюза мастакоў.



Пра сваю працу яна гаворыць:

– Самае цікавае – гэта сустрэчы з людзьмі. Напрыклад, пры сустрэчы з Пятром Бітэлем ён, апавядаючы пра свае гады ў ГУЛАГу, сказаў: «Я не разумею, чаму людзі так сябе паводзілі». Прайшло шмат гадоў, я памятаю розныя сітуацыі, і не магу растлумачыць, чаму людзі сябе так паводзяць. У жыцці ёсць дастаткова таямніц, якія не вырашаюцца з пакалення ў пакаленне. І невядома калі паразумеемся.

Вось некалькі жыццёвых гісторыяў ад Валянціны Трыгубовіч.

**Пачатак беларускасці**

Факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта я заканчвала завочна. Адначасова працавала ў раённай газеце ў Капылі, якая выходзіла на беларускай мове. Там у рэдакцыі атрымала першую долю беларускасці. Нам маладым-зялёным рэдактар гаварыў: «Вы мусіце пісаць на беларускай мове, то вы і гаварыце па-беларуску, тады будзеце менш рабіць памылак».

Сітуацыя была такая, што прыязджалі працаваць у газету выпускнікі БДУ, а старыя наборшчыцы, мясцовыя жыхаркі, якія ўручную набіралі тэксты, выпраўлялі памылкі, якія дапускалі ў сваіх матэрыялах дыпламаваныя журналісты. Асабліва гэта тычылася «русізмаў».

**«На паддашку»**

У 70-ыя гады пасябравала з групай мастакоў, якіх у той час называлі мастакамі-этнаграфістамі. За іх увагу да беларускай тэматыкі, да беларускай вёскі, да беларускай мовы. Група называлася так, таму што адным з лідэраў гэтай групы быў Яўген Кулік, майстэрня якога была на паддашку будынка на цяперашнім праспекце Скарыны насупраць крамы «Ласунак».

Ліфта дом не меў, і падымацца па лесвіцы было высока і цяжка. Была такая дамоўленасць, што калі майстэрня адчынена, а гэта значыць Яўген дома, то ў фортку ён вывешваў ручнік. Ідзеш па праспекце ля «Ласунка» і бачыш – ручнік вісіць. Ага, значыць, гаспадар у майстэрні. Можна зайсці, пагутарыць з сябрамі. А калі ручніка няма, то не марнуеш час, бо майстэрня закрыта.

Звычайна ў майстэрні збіраліся Кулік, Марачкін, Купава, Маркавец, Свентахоўскі і іншыя. Мастакі рабілі неафіцыйныя выставы, прысвечаныя юбілеям знакамітых беларусаў: Цёткі, Гусоўскага. Так паступова набіраўся ў мяне жыццёвы досвед беларушчыны.

**Паездка ў Зэльву**

Я тады працавала ў газеце «Голас Радзімы». Мы часам маглі надрукаваць тое, што не дазвалялася іншым газетам. З Ларысай Генюш мяне пазнаёміў Фёдар Янкоўскі на з'ездзе пісьменнікаў. Пасля знаёмства я прыйшла ў рэдакцыю і прапанавала напісаць пра Ларысу Антонаўну. Начальства пагадзілася, але адкладвала справу на потым.

Тады я пішу ў Зэльву ліст, маўляў, мы з Вамі дамаўляліся, што я прыеду і напішу нейкі матэрыял для друку, але начальства мяне не адпраўляе ў камандзіроўку. Напішыце мне ліст і нагадайце, што я абяцала прыехаць і не выконваю сваё абяцанне.

Яна адразу адгукнулася. Напісала, што надвор'е стаіць спрыяльнае, вясна, і яна мяне чакае, тым больш, што я абяцала. Я пайшла з лістом да свайго начальства і мяне адправілі ў камандзіроўку.

Мы прасядзелі з Ларысай Антонаўнай усю ноч, чыталі вершы, рукапісы, гаварылі пра ўсё на свеце. Калі матэрыял быў надрукаваны, то мушу прызнаць, што кіраўніцтва ўпісала адзін абзац, які я не пісала.

Пасля публікацыі Ларыса Генюш даслала мне ліст, у якім пісала: «Мяне не здзівіла і не ўразіла, што вы напісалі, але ўразіў факт друкавання гэтага матэрыялу».

**Мужчынскі ўчынак**

Васіля Быкава я безумоўна бачыла і чула раней на розных сустрэчах і з'ездах.

Я была на тым сходзе ў Доме кіно, калі ствараўся Беларускі народны фронт. Гэтыя падзеі да гэтага часу ў мяне перад вачамі. Там быў далікатны момант. Ужо прайшло дастаткова бурнае абмеркаванне сітуацыі, на галасаванне было пастаўлена пытанне аб стварэнні Беларускага народнага фронта. І тут за мікрафон ухапіўся інструктар з ЦК КПБ і пачаў ліхаманкава крычаць супраць. Момант быў драматычны. Васіль Быкаў рашуча адабраў у яго мікрафон і жорстка вымавіў: «Пытанне пастаўлена на галасаванне. Якія могуць быць дыскусіі». І правёў галасаванне.

У адказную хвіліну Васіль Быкаў, як сапраўдны мужчына, узяў лейцы ў свае рукі.

Л.КАТКОВІЧ

# Зрабіць жыццё лепшым для кожнага

Мой суразмоўца – былы афіцэр-сувязіст Аляксей Кавалец.

Ён нарадзіўся ў вёсцы Вялікае Малішава на Століншчыне. У савецкія часы вясковыя хлопцы з задавальненнем набывалі прафесію вайскоўца. Гэтым нялёгкім шляхам пайшоў і Аляксей. У 1974 годзе ён скончыў Чарапавецкае вышэйшае ваенна-каманднае вучылішча сувязі.



**– Вядома, што афіцэр не выбірае месца службы. Вам, напэўна, прыйшлося шмат дзе пабываць. Як Вы вярнуліся на радзіму?**

– Я служыў у войску да канца 1992 года. Давялося пабываць у розных месцах Савецкага Саюза і за межамі – Карэлія, Манголія, Закаўказзе. Апошняе месца службы – Сухумі. У 1992 годзе там пачалася вайна. Снарадамі была прашыта кватэра над намі і пад намі. Нашу вайсковую частку расфарміравалі, афіцэраў звольнілі па скарачэнні штатаў. Паколькі ішлі ваенныя дзеянні, то з сем'ямі нас на самалётах перакінулі праз Каўказскі хрыбет... І такім чынам я апынуўся на радзіме. А паколькі прапісаны быў да мінскага ваенкамата, то прыехаў у Мінск. У Беларусі вайскоўцаў хапала, адсюль ніхто з'язджаць не хацеў. З таго часу я – чалавек цывільны.

**– За гады вайсковай службы вы не забылі беларускую мову. Ці прыходзілася Вам ужываць родныя словы ўдалечыні ад дому?**

– Падчас службы ў войску для мяне было вялікай радасцю сустрэць земляка. Мы з задавальненнем гаварылі на роднай мове і спявалі нашы песні. Успамінаю, як у Манголіі, у пустыні, афіцэры збіраліся ў намётах і спявалі родныя песні. З якім захапленнем мяне слухалі, калі я спяваў беларускія песні. Хоць для большасці словы былі незразумелыя. Але, напэўна, нешта душэўнае ёсць у мелодыях нашых песень. А калі вучыўся ў ваенным вучылішчы, то ўсе ансамблі на ўсіх курсах спявалі песні з рэпертуару нашых «Песняроў». Я гэтым вельмі ганарыўся, і з ахвотай дапамагаў самадзейным артыстам правільна прамаўляць беларускія словы.

**– Якой вам бачыцца наша краіна ў будучым?**

– Для мяне Беларусь – мая Радзіма, мая маці, якая дала мне ўсё: сям'ю, мову, культуру. Я заўсёды пачуваў сябе часткай Беларусі і заўсёды ганарыўся гэтым. Я вельмі занепакоены цяперашнім станам у краіне. Бо калі знішчаецца Беларусь, то знікаю я як чалавек, як асоба. Не будзе суверэннай Беларусі – не будзе беларускай нацыі. У беларускай дзяржаве павінна панаваць беларуская культура, беларускія традыцыі, беларуская мова. Упэўнены, што ў нашым доме будзе ўтульна ўсім народам.

**– Якая ў Вас сям'я? На якой мове Вы размаўляеце дома ў сям'і?**

– Мая жонка Наталля – расіянка, родам з Карэліі. У яе родных мясцінах жыве сорак адсоткаў беларусаў. Сярод яе сваякоў і раней былі беларусы. І наогул да беларусаў там ставяцца добра. У нас з ёй поўнае разуменне па ўсіх пытаннях. Сын нарадзіўся тут у Мінску, у 1994 годзе. Ён вучыцца ў беларускім класе, у беларускай гімназіі. У нашым раёне беларускай школы не было, нам штодзень прыходзіцца вазіць хлапца ў школу ў цэнтр горада, у Савецкі раён сталіцы.

Дома мы размаўляем па-беларуску. Гэта практыка для сына. Жонка беларускую мову вывучыла самастойна, крыху з маёй дапамогай.

**– Вы пабачылі шмат гарадоў. Якім Вам бачыцца наша сталіца ў бліжэйшай будучыні?**

– Мінск – сталіца еўрапейскай дзяржавы. Трэба шмат зрабіць, каб наш горад стаў сапраўды еўрапейскім горадам. Недастаткова наладзіць асвятленне цэнтральных вуліц, трэба глядзець, што робіцца ў мікрараёнах. Разбіты асфальт у дварах, цемень – гэтага не павінна быць. Тое, што ўвечары ў горадзе небяспечна знаходзіцца на вуліцы – не сакрэт. Так быць не павінна.

Практычна ў горадзе няма такіх месцаў, дзе можна было б прыйсці сям'ёй з дзецьмі пабедаць або павячэраць. Каб было смачна і танна. А такія паходы ўмацоўвалі б сем'і. Наведванне тэатра таксама становіцца дарагім задавальненнем, і шмат каму не па кішэні. Над гэтымі пытаннямі трэба думаць, трэба іх вырашаць.

Прадпрыемствам горада неабходна перайсці на выпуск канкурэнтаздольнай прадукцыі. А для гэтага патрэбны інвестыцыі ў эканоміку. Будуць рэнтабельна працаваць прадпрыемствы – у людзей будзе пастаянная праца. Будуць багатыя людзі, будзе багаты горад, будзе багатая краіна. Такі ланцужок. Патрэбны людзі, якія б узялі на сябе адказнасць за будучыню горада, а не жылі сённяшнім днём.

Леанарда МУХІНА

# Кесарава адсячэнне

***Руская праваслаўная царква Маскоўскага патрыярхату і Беларуская дзяржава дамаўляюцца пра шчыльнае супрацоўніцтва***



Фота У. Шляпак

Беларусь заключае дамову з царквой. Адказ на якую патрэбу ў сённяшнім беларускім грамадстве дае прынянцце такога пагаднення?

Якасць самога гэтага дакумента, з якім ужо можна азнаёміцца, не зусім зразумелая. «Хто з кім заключае дамову?» – узнікае першае пытанне. Ну, з дзяржавай больш-менш зразумела. Прэзідэнт як галава выканаўчай улады падпісвае пагадненне. Але што прадстаўляе Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі? Праваслаўныя рэлігійныя абшчыны, аб'яднанні, манастыры, брацтвы, місіі, духоўна-вучэбныя ўстановы? У якой колькасці вернікаў?

Прадмет пагаднення таксама падаецца даволі цьмяным. Першае ўражанне – што пагадненне рамкавае, якое акрэслівае перспектыву развіцця стасункаў праваслаўнай царквы і беларускай дзяржавы. Аднак шэраг момантаў у гэтым дакуменце сведчаць аб адваротным. Таму цікава пачуць меркаванні эксперта па пытаннях свабоды сумлення. Сваімі думкамі мы папрасілі падзяліцца юрыста Дзіну Шаўцову:

**1.**

– Такая дамова ў першую чаргу павінна базавацца на нормах дзейнага заканадаўства. Гэта можа быць унутранае заканадаўства Рэспублікі Беларусь альбо міжнародныя дамовы, у якіх Рэспубліка Беларусь удзельнічае. Але пагадненне утрымлівае тэрміны, якія мы не сустрэнем ні ў адным з нарматыўна-прававых актаў (законы, падзаконныя дакументы і г. д.): напрыклад, «кананічная тэрыторыя царквы», «экспансія псеўдарэлігійных структур»... Што стаіць за гэтымі словамі і дзе можна прачытаць як раскрываецца дадзенае паняцце, невядома.

**2.**

Адразу ж першыя цытаты прыцягваюць нашу ўвагу: «прызнаючы, што развіццё і ўмацаванне супрацоўніцтва паміж Царквой і Дзяржавай адказвае інтарэсам беларускага народа». Здаецца, што гэта занадта пафасная фраза, якая цягне за сабой занадта высокі ўзровень адказнасці.

Далей пачынаецца самае цікавае: «Улічваючы, што праваслаўе гістарычна з'яўляецца рэлігіяй большасці беларускага народа ...». На гэты тэзіс хацелася б адказаць словамі прафесара палітычных навук, вядомага абаронца пазіцый праваслаўнай царквы Л.Я.Замлякова. Сваё вельмі скептычнае стаўленне да лічбы 80% праваслаўных сярод беларусаў, ён выказаў на «круглым стале», што адбыўся 30 снежня. Гэтую лічбу, па яго словах, вельмі свавольна выкарыстоўваюць і спекулююць ёй. Калі пачытаць даклады Камітэта па справах рэлігій, то высвятляецца, што гэта 80% з 50% грамадзянаў, якія лічаць сябе веруючымі. Атрымліваецца, што ад агульнай колькасці насельніцтва гэта не больш за 35–40%. Гэта ўжо далёка не большасць. Да гэтага трэба дадаць і розныя крытэрыі, па якіх людзі да сябе прымяняюць катэгорыю «веруючы». Паводле сацыялагічных апытанняў, большасць тых, хто лічаць сябе праваслаўнымі толькі зрэдку наведваюць царкву. А тых людзей, якія сапраўды жывуць згодна з вучэннем царквы, не больш за 3–4%.

Таксама і слова «гістарычна» выклікае шэраг пытанняў. Гэтую цытату ўвогуле неабходна аддаць вучоным на даследаванне для атрымання сапраўдных аб'ектыўных дадзеных.

**3.**

Далей пазначана, што дамова прымаецца, «паходзячы з неабходнасці абароны праваслаўнай царквы ад экспансіі псеўдарэлігійных структур...». Што стаіць за гэтым тэзісам, і што гэта можа парадзіць на практыцы? Мы зараз можам толькі здагадвацца. Але калі ўлічыць усе існуючыя на сённяшні дзень фактары, то выльецца ўсё гэта ў нейкія кулуарныя інтрыгі, якія вынікаюць з нізкага ўзроўня прававой культуры, што, у рэшце рэшт, можа прывесці да таго, што адна царква «правільная», а ўсе астатнія – «псеўдарэлігійныя структуры».

**4.**

Таксама вельмі спрэчнае сцверджанне аб тым, што пагадненне базуецца на «прынцыпах пабудовы ўзаемаадносін Праваслаўнай царквы і свецкага грамадства, выкладзеных у кананічных нормах і асновах сацыяльнай канцэпцыі Рускай праваслаўнай царквы». Любое пагадненне павінна заключацца ў рамках заканадаўства, як ужо было згадана, а не «кананічных нормаў» і «асноваў сацыяльнай канцэпцыі Рускай праваслаўнай царквы». Нормы і асновы, канешне, можна ўлічваць, гэта можа праявіцца ў нейкіх пунктах дамовы, але заключацца яна павінна толькі ў межах дзейнага заканадаўства. Па-іншаму немагчыма. Сваёй канцэпцыяй кіруецца толькі праваслаўная царква, а навязваць яе пры пабудове стасункаў з дзяржавай неправамерна.

**5.**

Вялікае месца складальнікамі дамовы адводзіцца пафасным выказванням і безспадстаўным высновам. У арт.1, напрыклад, сцвярджаецца, што «царква з'яўляецца сацыяльным інстытутам, чый гістарычны досвед, духоўны патэнцыял і шматвекавая культурная традыцыя аказалі ў мінулым і аказваюць зараз вызначаючы ўплыў на фарміраванне духоўных, культурных і дзяржаўных традыцый беларускага народа». Дзе знайсці аснову для такіх гучных заяваў, калі чалавек, просты грамадзянін хоча ў гэтым пераканацца. Таксама міжволі ўзнікае пытанне: «ці правамерна паступае дзяржава ў гэтам выпадку?». Дзяржава – гэта прадстаўніцтва інтарэсаў народа, у такім выпадку хто дэлегаваў ёй менавіта такія паўнамоцтвы. Мы што, правялі рэферэндум, дзе ўсе выказаліся «за», ці на падставе спекуляцыі лічбай 80%?

**6.**

Таксама тое, што «духоўныя і культурныя каштоўнасці, якія захоўвае царква, з'яўляюцца гістарычным здабыткам беларускага народа і асновай яго нацыянальнай ідэі», здаецца даволі спрэчным выказваннем. Узнікае падазрэнне, што сваё ўнутранае ўладкаванне РПЦ стараецца прапіхнуць у якасці нацыянальнай ідэі, якая на сённяшні дзень нідзе і ніяк не сфармуляваная.

Тое, што вядомае толькі ўнутры праваслаўнай царквы паводле дамовы «павінна палягаць у аснове маральнага здароўя народа і паляпшэння дэмаграфічнай сітуацыі». Дэмагогія, для якой няма ніякіх асноваў.

**7.**

Наступнае: «дзяржава з'яўляецца гарантам захавання духоўных і культурных традыцый беларускага народа, гістарычна сфарміраваных пад уплывам царквы». Калі нехта зараз дакажа, што нейкія традыцыі (напрыклад, застоллі, гулянні) сфарміраваліся пад уплывам праваслаўнай царквы, толькі тады гэты тэзіс будзе карэктным. А пакуль што нідзе не даказана, што нейкія традыцыі сфарміраваныя ў нас менавіта пад уплывам праваслаўнай царквы.

**9.**

Таксама не абмінулі складальнікі і адукацыю. Калі паводле дамовы на свецкае выхаванне будзе ўплываць праваслаўная царква, тады якое ж яно свецкае. Шмат якія пункты, як, напрыклад, «работа царкоўных і свецкіх сродкаў масавай інфармацыі», могуць паспяхова рэалізавацца і ў рамках свецкай дзяржавы. Хіба што толькі распрацоўшчыкі не маюць на ўвазе праваслаўную цэнзуру ўсіх СМІ.

**9.**

Ёсць і некалькі камічных момантаў. Напрыклад, задэклараваана, што «прадстаяцель царквы карыстаецца недатыкальнасцю» (як дэпутат? ці яго нельга арыштаваць?), альбо, што «царква гарантуе тайну споведзі». Няўжо каля спавядальні будзе стаяць міліцыянер?

**10.**

Ёсць таксама моманты, якія не дазваляюць кваліфікаваць дадзенае пагадненне як рамкавае, у асноўным гэта тое, што тычыцца фінансавай дзейнасці царквы. Напрыклад, тое, што «дзяржава прадстаўляе юрыдычным асобам царквы права на атрыманне гуманітарнай дапамогі ў спрошчаным парадку», якія нідзе не прадугледжаны ў заканадаўстве. Гэта дае падставу меркаваць, што пад пунктамі дамовы ёсць рэальная глеба, і сам дакумент – гэта проста легалізацыя існуючай дзейнасці.

***

Відавочна, што праваслаўная царква ставіцца ў няроўныя ўмовы з іншымі канфесіямі. Вольнае разуменне палажэнняў гэтага пагаднення ў бліжэйшым будучым можа прывесці як мінімум да павелічэння паўнамоцтваў чыноўнікаў на месцах. Апошні артыкул выглядае проста як здзек: «Бакі прызнаюць, што дадзенае пагадненне заключаецца ў імя грамадскага дабрабыту і не мае на мэце прыцясненння ў правах якіх-небудзь канфесій ці веруючых грамадзян». Уся папярэдняя практыка і шматлікія выпадкі ціску на ўсіх неправаслаўных даюць падставу меркаваць, што гэта не больш чым дэкларацыя. Пры ўвядзенні нормаў у жыццё, на думку юрыстаў, мы непазбежна прыйдзем да гэтых прыцясненняў. «Я ў гэтым не сумняваюся. Канешне, найлепшы суддзя гэтага час, які ўсё пакажа, але ўжо сёння калі ты не праваслаўны – гэта рызыка, – кажа Д.Шаўцова. – Адказаць на пытанне што будзе дакладна немагчыма, як немагчыма прадбачыць фантазію чыноўнікаў». Аднак можна канстатаваць, што ўжо сёння такое стаўленне да праваслаўнай царквы нараджае ў грамадстве напружанасць і канфрантацыю, якая з часам будзе толькі павялічвацца.

З гэтай прычыны іншыя канфесіі, гледзячы на такія «цёплыя» стасункі РПЦ і дзяржавы, пачынаюць таксама прэтэндаваць на месца пад «сонцам». Натуральнае пытанне «Чым мы горш?» выліваецца у складанне шматлікіх дамоў, заяваў і пагадненняў. Аднак іншы бок не спяшаецца з імі сябраваць. Дзяржава ў асобе сваіх прадстаўнікоў (Камітэта па справах рэлігіі і г. д.) заяўляе, што на такога кшталту пагадненні могуць прэтэндаваць толькі традыцыйныя канфесіі, якія пералічаныя ў прэамбуле Закона. Так паступова фармуецца ў грамадстве небяспечная мяшанка, якая ў нейкай крытычнай кропцы абавязкова ўзарвецца. Калі дзяржава параджае няроўнасць, а такія дамовы фактычна яе і параджаюць, гэта перш за ўсё ўдарыць па ёй самой і адаб'ецца на кожным.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

Згодна з новым заканадаўствам, перарэгістрацыю не змогуць прайсці 4 зарэгістраваныя рэлігійныя групы, якія з'явіліся на пачатку 90-х гадоў. Гэта Новаапостальская царква, рэлігійнае аб'яднанне абшчынаў Поўнага Евангелля, аб'яднанне Абшчынаў прагрэсіўнага іудаізму і рэлігійная суполка Бахаі.

У Беларусі зарэгістравана 26 канфесій. Самай дынамічнай з'яўляецца пратэстанская, у прыватнасці, царквы Саюзу Хрысціянаў Веры Евангельскай. На першае студзеня 2000 годзе яны мелі каля 247 прыходаў, у 2001годзе – 285, у 2002 годзе – 332. Колькасць праваслаўных прыходаў павялічылася за гэты тэрмін на 68 і перасягнула тысячу (1.003 прыхода).

# Адбітак для вечнасці

**_Прэзідыум Савета Міністраў адобрыў праект закона «Аб дзяржаўнай дактыласкапічнай рэгістрацыі». У ім вызначаны катэгорыі грамадзян, якія павінны праходзіць гэту працэдуру ў абавязковым парадку, а ўсе астатнія па асабістаму жаданню могуць аставіць адбіткі пальцаў у дактакартатэцы._**

**З гісторыі дактыласкапіі**

Кітайцы, як найбольш дасведчаныя ў таямніцах чалавечага цела, даўно меркавалі, што адбітак пальца – рэч унікальная. А ўпершыню метад ідэнтыфікацыі асобы па адбітку пальца выкарысталі ў Індыі ў 19-м стагоддзі. Такім метадам там «вылічвалі» работнікаў, якія па некалькі разоў атрымлівалі заробак за адну і тую ж працу. У нас ідэнтычнасць адбіткаў пальцаў у крыміналістыцы выкарыстоўваецца з 1906 года. За прамінулае стагоддзе крыміналістычная навука ўдасканалілася, з'явілася шмат новых дакладных экспертызаў. Сярод іх – аналіз на ДНК, бездакорна навукова абгрунтаваны. Але вось парадокс: у блізнят ДНК аднолькавы, а адбіткі пальцаў розныя. Ёсць над чым задумацца стваральнікам клонаў.

**Крымінальныя «пальцы»**

На практыцы адбіткі пальцаў здымаюцца ў асобаў, якія падазраюцца ва ўчыненні злачынства. Працэдура малапрыемная. Усе яе бачылі ў дэтэктыўных кінастужках. Да з'яўлення ў 1987 годзе аўтаматызаванай дактыласкапічнай ідэнтыфікацыйнай сістэмы (АДІС) эксперт-крыміналіст шукаў ідэнтычныя адбіткі ўручную – пераглядаў на працягу працоўнага дня некалькі соцень картак са слядамі рук. Супадзенне следа з адбіткам у дактакарце лічыцца несумненным, калі супадае не менш як 12 асаблівасцей. Цяпер першапачатковая апрацоўка аддадзена камп'ютэру, і ўжо не чалавек, а машына шукае ідэнтычныя адбіткі пальцаў. Але апошняе слова нават і сёння застаецца за экспертам. З'яўленне АДІС садзейнічала раскрыццю старых злачынстваў. Калі ўсе крымінальныя пальцы сабраліся ў адной камп'ютэрнай базе дадзеных і іх пачалі ідэнтыфікаваць з «пальцамі», якія засталіся на месцах нераскрытых злачынстваў, то многія злачынцы, якія супакоіліся «за даўнасцю год», былі непрыемна здзіўлены, бо іх пачалі затрымліваць супрацоўнікі праваахоўных органаў. Як паведаміў намеснік начальніка Экспертна-крыміналістычнага цэнтра ГУУС Мінгарвыканкама Міхаіл Буката, толькі ў мінулым годзе дзякуючы АДІС было раскрыта каля 200 старых злачынстваў, якія адносіліся да катэгорыі цяжкіх.

Трэба зазначыць, што наяўнасць адбіткаў пальцаў на месцы злачынства не з'яўляецца прысудам. Але толькі ў тым выпадку, калі грамадзянін не здзяйсняў злачынства. Вось прыклад. У 2001 годзе абрабавалі гандлёвы дом «На Нямізе». Адбіткі пальцаў аднаго з злачынцаў, раней судзімага, былі знойдзены на месцы крадзяжы. Яго затрымалі. Калі ж прадаўцы сказалі, што яны давалі пакупнікам разглядаць гадзіннікі разам з падстаўкай, затрымальнікам прыйшлося вызваліць. Бо такім чынам пацвердзілася яго версія аб паходжанні адбіткаў пальцаў на месцы злачынства. Аднак супрацоўнікі крымінальнага вышуку Цэнтральнага РУУС знайшлі іншыя факты, у прыватнасці, факт рэалізацыі крадзенага тавару. А эксперты ўстанавілі, што і след абутку там, дзе яго мог пакінуць толькі злодзей, належыць менавіта грамадзяніну, якога міліцыянты спачатку вызвалілі з-пад варты.

З улікам новых фактаў і заключэння экспертаў аказалася дастаткова ўлік для арышту падазронага.

**Адбіткі пальцаў як апошні аргумент**

Думка аб стварэнні базы дадзеных з адбіткамі пальцаў усіх грамадзян нашай краіны ўжо даўно займала крыміналістаў і сышчыкаў. І зусім не для таго, каб аблегчыць ім працу. Бо злодзеі добра ведаюць аб небяспецы пакінутых «пальцаў» на месцы злачынства і «працуюць», трымаючыся «тэхнікі бяспекі» – у пальчатках. Супрацоўнікі праваахоўных органаў упэўненыя, што агульная дактыласкапія дапаможа законапаслухмяным грамадзянам. У якасці аргументаў прыводзяць такія прыклады. Чалавек стаў ахвярай няшчаснага выпадку, напрыклад, патануў і шмат часу прабыў у вадзе. Пасмяротныя змяненні яго цела такія, што нават блізкія сваякі не могуць апазнаць чалавека. І толькі наяўнасць адбіткаў пальцаў у картатэцы дапамагла б устанавіць асобу. Але ў картатэцы няма адбіткаў пальцаў законапаслухмянага чалавека. Пасля марных намаганняў па высвятленні асобы такога грамадзяніна пахавалі за казённы кошт на спецучастку могілак у нумарной магіле. Праўда, нават пасля гэтага міліцыя працягвае працу па высвятленні гэтай асобы. Тэрмін пошуку зніклага чалавека і высвятлення асобы ахвяры вызначаны ў 10 гадоў. На пачатку лютага ў супрацоўнікаў пошукавага аддзела ўпраўлення крымінальнага вышуку ГУУС Мінгарвыканкама было 260 спраў. Гэта – дзесяцігадовы багаж. За кожнай справай – лёс чалавека і яго блізкіх. Прычым усе гэтыя «неўстаноўленыя» асобы – законапаслухмяныя грамадзяне.

Яшчэ прыклад. Бабулька жаліцца, што нехта атрымаў яе пенсію. Подпіс, як на ўзоры. Але справа ў тым, што пасля перанесеных хвароб бабулька ўжо не так прыгожа распісваецца.

У нашай краіне ўжо ёсць абсталяванне, якое дазволіць законапаслухмянаму грамадзяніну пазбегнуць малапрыемнай працэдуры з чорнай краскай. Замест гэтага можа быць камп'ютэрнае сканаванне адбіткаў пальцаў.

**А як у суседзяў?**

Адносіны насельніцтва да стварэння базы дадзеных з адбіткамі пальцаў рук у кожнай краіне розныя. Але чым больш цывілізаваная краіна, тым больш разумення неабходнасці гэтай працэдуры. На жаль, мы жывём у век катастрофаў. Кажны авіяпасажыр ды і проста пешаход не можа быць упэўнены ў паспяховым завяршэнні падарожжа. Наяўнасць адбіткаў пальцаў можа быць запатрабавана якраз у трагічныя моманты жыцця. У Расіі ўжо дзейнічае аналагічны закон. У ім таксама вызначаны катэгорыі грамадзян, якія павінны абавязкова прайсці гэтую працэдуру, астатнія могуць прайсці яе па' сваім жаданні. Акрамя таго, можна аставіць адбіткі пальцаў, напрыклад, перад нейкім рызыкоўным падарожжам.


Фота У. Шлапак

Згодна з законапраектам, у нашай краіне ў абавязковым парадку працэдуру дактыласкапіі павінны прайсці прызыўнікі і вайскоўцы УС РБ, грамадзяне, якія праходзяць службу ў дзяржорганах, дзе прадугледжана вайсковая служба, супрацоўнікі МУС, органаў фінансавых расследаванняў, пракуратуры, прафесійных аварыйна-выратавальных службаў, экіпажы ваенных суднаў, супрацоўнікі падатковых і мытных органаў, грамадзяне, якія працуюць на небяспечных прамысловых прадпрыемствах. Абавязкова павінны прайсці дактыласкапію недзеяздольныя грамадзяне, а таксама іншаземцы, якія просяць прытулку ў нашай краіне ці наадварот, павінны быць дэпартаваны з Беларусі.Што тычыцца расійскага вопыту, то, на думку супрацоўнікаў праваахоўных органаў, наяўнасць у дактакартатэцы адбіткаў пальцаў недзеяздольных грамадзян выключыла магчымасць махлярстваў з іх нерухомасцю. Таксама не стала праблем з устанаўленнем асобы такіх грамадзян у выпадку іх смерці за межамі асабістай кватэры.

У Беларусі ў распрацоўцы такога законапраекта ўдзельнічалі міністэрствы абароны, прамысловасці, сувязі, працы і сацыяльнай абароны, па падатках і зборах, юстыцыі, а таксама КДБ, МУС, Вярхоўны суд, КДК, Пракуратура краіны.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

## Тэндэнцыі

## П'яныя на рэйках мінскага метро

На рэйках мінскага метро на станцыі «Парк Чалюскінцаў» апынуўся чалавек. Ён зваліўся пад самы цягнік, які ў гэты момант прыбываў на станцыю.

На шчасце, небарака застаўся жывы і зусім не пацярпеў. Відаць, таму, што быў п'яны. А п'яных, як вядома, Бог беражэ. Дзеяцюк, які зваліўся пад цягнік метро, нават адмовіўся ад шпіталізацыі.

У Мінскім метрапалітэне штогод здараецца па 3–4 такіх выпадкі. Рэдка калі пад цягнік кідаюцца самазабойцы, звычайна – гэта тыя, хто ў стане алкагольнага ап'янення. Можна ўявіць сабе, колькі было б трагедыяў, каб многіх п'яных не разварочвалі каля турнікетаў і не выводзілі з метро.

## *Фальшываманетчыкі любяць даляры*

Летась у Беларусі было выяўлена амаль паўтары тысячы грашовых падробак, а дакладней, 1.480 фальшывых банкнот. Гэта болей, чымсьці ў 2001 годзе, але не нашмат – усяго на 36 падробных купюр. Колькі не выяўлена - невядома.

Часцей за ўсё ў нашай краіне падрабляюць даляры: у мінулым годзе праваахоўныя органы выявілі 1.241 такую купюру. Адпаведна зменшылася колькасць падробак беларускіх рублёў. З'явіліся ў 2002 годзе ў нашай краіне і падробныя еўра. Папулярнасць гэтай валюты ўвесь час расце, таму можна спрагназаваць, што і фальшываманетчыкі часцей стануць звяртаць на яе сваю злачынную ўвагу.

## П'яніцы абрыдлі дактарам

Як вядома, у Мінску зачынілі ўсе выцвярэзнікі. Куды цяпер адвозяць п'яных менчукоў? А ў звычайныя клінікі. Толькі за адзін студзень сюды прывозілі аж паўтары тысячы чалавек нападпітку. Кожнаму чацвёртаму з іх спатрэбілася шпіталізацыя. Між тым, «хуткім дапамогам» ёсць чым заняцца, апрача перавозкі п'яніц.

Дарэчы, на сёння ў Мінску зарэгістравана ажно 33 тысячы жыхароў, што хварэюць на хранічны алкагалізм. У сталіцы летась было выпіта 8,5 літраў чыстага спірту на душу насельніцтва, уключаючы немаўлят. А 9 літраў – гэта ўжо тая мяжа, пасля якой варта гаварыць пра дэградацыю генафонду.

## *Злодзеі не шануюць літаратуру*



Днямі быў абрабаваны холдынг «Літаратура і мастацтва», куды ўваходзяць аднайменная газета і часопісы «Неман», «Полымя», «Славянскі свет» (колішняя «Крыніца»), «Маладосць» і «Всемирная литература».

З будынка па вуліцы Захарава, 21 непадалёк ад плошчы Перамогі невядомыя злодзеі скралі чатыры камп'ютары. І гэта нягледзячы на тое, што зусім нядаўна ў «ЛіМе» на вокны паставілі краты. Але гэта не дапамагло. Злодзеі распілавалі іх, вынялі шыбы і выцягнулі камп'ютары. А рэч у тым, што ў холдынгавым будынку не было ані сігналізацыі, ані аховы. Камп'ютары скралі прыкладна з 7 па 10 лютага – на уік-энд, калі ніхто не працаваў, і будынак заставаўся без нагляду. Цяпер, відаць, тут усталююць ахову.

Дарэчы, гэта ўжо не першы крадзеж на Захарава, 21. Некалькі гадоў таму з тыднёвіка «ЛіМ» зламыснікамі быў вынесены факс, а летась з фасаду будынка знялі шыльду з назвай газеты.

Сергей Сапоненко

# Просто стихи

Не судите меня строго
за стихи мои простые;
искушённых в жизни много,
ну а я живу впервые.

Не ищу громад сравнений,
лью из сердца прямо строчки.
Не болею самомненьем:
я пишу, а не пророчу.

Просто я дышу стихами:
что вдохнул, то выдыхаю;
остальное – тяжкий камень,
что послала мгла земная.

**Биография**

Бывало всякое:
и лето плакало,
январь цвёл маками,
бывало всякое.

Огнями чистыми,
весною звякнуло,
но осень – выстрелом...
– Бывало всякое.

**Проза жизни**

Простите меня за
невдумчивость прозы,
которую странно назвали
«стихи».
Какие стихи среди льда
и мороза,
а также всех прочих
природных стихий?

Я просто живу. Жизнь назвать
же стихами
ещё не решился никто на
Земле.
Но в сердце моём несгораемо
пламя,
которое светит в стихиях
и мгле.

Я прозу пишу – получается
рифма,
а ритм неожиданно жизнь
простучит,
когда на мгновение станет
мне видно,
что встречу я после холодной
ночи.

**Навек свободен**

Я не умею притворяться
и лицемерия стыжусь;






Мал. Віктара Говара

У сям'і нашага суседа Івана Ігнатавіча Сапоненкі ў 1966 годзе нарадзіўся доўгачаканы сын Сяргей. Толькі радасці не было... У немаўляці – цэрэбральны параліч. Спачувальна глядзяць вочы землякоў на бацькоў...

Побач Івана Ігнатавіча, выдатнага аўтамеханіка, заўсёды быў Сяргей, напачатку ў дзіцячай калясцы, а зараз на змайстраваным бацькам трохколавым веласіпедзе-ложку, якім ён навучыўся карыстацца для самастойных прагулак. Хадзіць, нешта рабіць рукамі, нават есці ён не можа... Гаварыць навучыўся, але толькі галоснымі гукамі. Бацькі добра яго разумеюць і дапамагаюць суразмоўцам як перакладчыкі. З самых першых нашых сустрэч мяне ўражвалі ягоныя вельмі выразныя вочы. Трапныя словы вядомага паэта «тайнапіс вачэй» дакладна адпавядаюць гэтаму назіранню. Увогуле, мне як мастаку, перш чым пісаць партрэт, трэба напачатку «расшыфраваць тайнапіс вачэй» асобы, без гэтага нічога вартага не атрымаецца. Калі нашыя позіркі сустракаліся, я адчуваў у вачах Сяргея магутную сілу. Здавалася, што яны трымаюць у сабе нейкае вельмі сумнае і нявыказанае пытанне да ўсіх...

У мінулым годзе Сяргей падараваў мне свой зборнік «Вершы».

Ён сам аваладаў камп'ютэрам і выкарыстоўвае яго ў творчых мэтах. Цуд, ды і толькі! Іван Ігнатавіч дапамог сыну, сканструяваў адмысловы абруч з доўгай эластычнай «дзюбай». Справа пайшла. Вельмі марудна, але пайшла. Сяргей націскае клавішы камп'ютэра, а той пакідае верш у памяці для экспанавання ўсім жадаючым праз Інтэрнет:

**http://ruslan.biblerussia.org/verses/Saponenko**

І жадаючыя ёсць! З усяго Свету:

у ЗША дзяржаўнае радыё транслюе песні на словы Сяргея Сапоненкі, выдавецтва ФРГ выпускае ў свет двухтомнік Сяргея Сапоненкі, па 500 старонак кожны і ўжо ёсць сігнальны экземпляр, міжнародная тэлекампанія прапаноўвае стварыць тэлефільм аб ім, паэта Сяргея Сапоненку прынялі ў Міжнародны клуб літаратараў.

Зараз вочы яго бацькоў свецяцца гонарам за таленавітага сына...

Вось і закарцела мне, каб і на Радзіме пачулі пра віртуальны бальшак паэта з магутнай сілай волі і шчырым сэрцам.

Калі ў Вас узнікла патрэба выказаць яму словы падтрымкі, калі ласка:

**вул.Кажара, д.1, кв.1, 246028,**
**Гомель, Беларусь.**
**mailto:serg@server.by**
**http://saponenko.synnegoria.com**

**Генадзь ГОВАР,**
**мастак**

увижу лживое лукавство,
и сердце точит болью грусть.

Не раболепствую пред прахом,
что властен в мире только
гнить.
Мне не страшны топор
и плаха,
им не порвать из жизни нить.

Свободу, данную мне Богом,
нельзя убить земным
князьям.
Я волен выбирать дорогу,
и выбор свой я
не предам

**Не привыкайте**

Полей озимых ярче изумруды,
Когда завянет красок
торжество.
Не восхищает ежедневность
чуда,
Когда привычно видим мы его.

Привычка означает – серость:
Покроет пылью яркие цвета –
Забудешь, как идти хотелось
Туда, где правит карнавал мечта.

Не привыкайте, чтобы жить
впервые,
Чтоб всякий миг прожитый
даровал
Столетья радости гигантские
такие,
Чтоб каждый вздох казался
слишком мал.

**Творчество**

Обрывки осени летят,
Сорвал нечаянно их ветер,
Ограбил отгоревший сад,
Но он за это не в ответе.

Холодный воздух. Зябкий
дождь.
Прозрачность без конца
и края.
Упала наземь лета дрожь,
Увы, давно не золотая.

Закрыть все окна. Кисти
взять.
Писать гуашью слишком
яркой,
Чтоб озарить сырую гладь
Огнём размером в сто
огарков.

Художника острее взгляд,
Когда любви в том взоре
много,
Когда цвета даёт не сад,
А вера – созерцанье Бога.

**Мороз**

Трещит мороз в телах
деревьев белых,
Хотя ноябрь в память
не ушёл.
Зима до срока жутко
осмелела,
Закован в лёд реки
остывший ствол.

Желтком поблекшим
притворилось солнце,
Не греет, как в былые
времена.
Натянута до боли, но не
рвётся,
Тугих ночей холодная струна.

Всё к лучшему: снега, мороз,
закаты,
Что к четырём заканчивают
жить.
С зимой терпящим холода
раскаты
Придёт тепла весны цветная
нить.

Вдруг оборвутся струны
тёмной ночи.
Распустятся деревья и река.
Терпеть беду порою трудно
очень,
Но в ней видней Всевышнего
рука.

**Завещание**

Когда уйду домой, не лейте
слёз напрасных,
Ведь я достиг того, к чему
стремил свой путь.
Мне ни к чему тоска
несбыточного счастья,
В котором мир всегда
стремился утонуть.

Мне всё равно, куда положат
прах и пепел:
Земля идёт к земле, а к небу
облака.
Земных имён не надо, –
это лепет,
Слова «Ушёл домой!» пусть
выведет рука.

**Рэдакцыя «Новага Часу» выказвае шчырую павагу Сяргею Сапоненку за талент да жыцця, за мужнасць, якая падае ўзор духоўнай сілы і ўпэўненасць, што жорсткасць лёсу можна перамагчы, калі маеш няскоранае сэрца. Вершы паэта – відочнае сведчанне такой духоўнай перамогі. Зычым Сяргею поспехаў і ўдзячных чытачоў яго ўзнёслай паэзіі**

# Развагі тэатрамана ля параднага пад`езда

*Тэатр пачынаецца не з вешалкі, а з мовы, бо толькі мова вызначае культурную прыналежнасць*

Ці задумваліся вы, шаноўныя чытачы і разам з тым патэнцыяльныя гледачы спектакляў, над тым, у якія тэатры мы з вамі ходзім? Ці нагадваюць яны нам аб тым, што мы жывем не ў Паўночна-Заходнім рэгіёне расійскай імперыі, а ў незалежнай і самастойнай, маючай усе знакі адметнасці, Рэспубліцы Беларусь?!

Давайце зробім простае арыфметычнае дзеянне – палічым іх.



**Колькасны склад**

Значыць, сталіца! Калі не лічыць разам Беларускую Оперу і Беларускі Балет, якія шмат дзесяцігоддзяў ужываліся разам, то налічым 12. З іх беларускамоўных – 4. Адзіны Дзяржаўны для самых маленькіх – рускамоўны.

Ёсць ужо і недзяржаўныя тэатры. Іх – 6. З іх беларускамоўных – 1.

Адчуйце, як кажуць, розніцу.

Кожная вобласць мае па адным драматычным і адным лялечным (Брэст, Гародня, Магілёў). Усе рускамоўныя. Гомель мае 2 драматычныя і адзін лялечны. Усе – рускамоўныя. І толькі Віцебск жывіць беларускім словам і дарослых і дзетак! Адразу дададзім сюды Маладзечанскі драматычны, але і там лялечны усё ж рускамоўны.

Ёсць яшчэ нядаўна народжаныя дзяржавай тэатры ў Мазыры ды Слоніме, але аб гэтым крыху пазней.

Усяго разам атрымліваем 34 тэатры, з якіх беларускамоўных – 9. Ну як, шаноўны чытач-глядач, наконт пытання аб нацыянальных меншасцях і тытульнай нацыі?

А цяпер яшчэ адно пытанне? Хто можа знайсці дакументы, якія б пры адкрыцці ўсіх гэтых тэатраў, рэгламентавалі выкарыстанне, як асноўнай рабочай мовай – суседскую рускую? СЛАБО?

**Сродак ахопу**

Ну, а цяпер пра справы надзённыя. Пасля трагічнага зыходу Міколы Трухана з тэатра «ДЗЕ-Я», а гэта быў чалавек апантаны, свядомы і сэрца яго так напружана шукала падтрымкі, апрацоўваючы зусім не тэатральную дзялянку сталіцы, што не вытрымала. У 50 гадоў.

На афішы гэтага сапраўды нацыянальнага тэатра, у калідорах якога можна было чуць нязмушаную беларускую гаворку, сёння ўжо не прысутнічае ніводнай з яго пастановак.

І не толькі таму, што час няўмольны. Больш таго, нядаўнюю прэм'еру, п'есу Георгія Марчука, напісаную ім, натуральна, па-беларуску, даўмеліся пераклясці на рускую мову. Такім чынам палічылі магчымым павялічыць ахоп гледача. Дарэмна, панове! «Гарбата з вярблюдам» у такіх выпадках нязменна ператвараецца ў «Чай с верблюдом».

**Эксперыменты**

Дзяржаўны тэатр юнага гледача распачаў дзіўны «эксперымент». Вось ужо чацвёртая, а магчыма ўжо і пятая пастаноўка, прабіваецца да іх на сцэну. На рускай мове!

Вядомая (так і не хочацца пісаць «беларуская», але што зробіш – усё сваё жыццё адпрацавала на сцэне ТЮГа) артыстка Рыма Маленчанка, відаць, знайшла ў сабе сілу і волю запэўніць кіраўніцтва тэатрам, што яе эксперыментальны «Мой Пушкін» – гэта давесці беларускім дзеткам, што па-беларуску Марына Цвятаева не можа гучаць прыстойна. Толькі па-руску!

Гэта ж трэба! Тады ўжо і Шэкспір толькі па-ангельску, а Мальер толькі па-французску, Шылер і Гётэ па-нямецку, а Астрыд Ліндгрэн па-шведску. Во дзе была б запатрабаваная духоўная культура Свету. Для тых жа рускіх. Вы папытайце ў аднаго мільёна эстонцаў (ну так! тых «чухонцаў», якіх яшчэ паўтара стагоддзя таму і на парог не пускалі), папытайце, якія іншамоўныя аўтары і ў якіх тыражах знайшлі прытулак на іх невялічкім кавалачку, сапраўды незалежнай зямлі. Спадарыні Маленчанка і няўцям падумаць аб гэтым.

А тут і Жан Ануй спачатку меў назваю сваю п'есу «Антыгона», а цяпер ужо – «Пути царей». І пераклад непатрэбны! Святлана Навуменка, таленавіта, трэба сказаць, чалавек, паставіла казачку « Золотое сердечко» (внимайте белорусские детишки). А тут яшчэ Валянціна Еранькова зноў-ткі «ўпрыгожыла» сваім эксперыментам адзіную ў краіне ТЮГаўскую сцэну, з якой заўсёды гучала беларуская мова, аж ад самой Мазалеўскай, «Историей любви полосатого кота и синьориты ласточки» Ж.Амаду. Ну, няма у нас належнага ўзроўню перакладчыкаў. (На іх, натуральна, капыл.) Няма! Бедны Францыск Скарына, навошта ён мучыўся над Бібліяй?

Добра, гэта іх погляд на «праблему» перакладу, але пры чым тут Дзяржаўны тэатр юнага гледача? Ну, а што кіравала вядомымі купалаўцамі Зояй Белахвосцік ды Міколам Кірычэнкам, калі яны ўдумалі сваю антрэпрызу, узяўшы п'есу А. Дударава «Люці» і переназваўшы яе ў «Я приходил убить тебя»? Будуць цяпер рабіць «чос» па культурных кропках сталіцы і аселіцаў?

Вось вам і Купалаўцы! Усё на продаж! ІДЗЕ ГАНДАЛЬ МОВАЙ! І гэта ж усё не з-за кавалка хлеба. Хто-хто, а ўжо купалаўцы не жабракі адносна іншых артыстаў.

**Магчымасці**

Усё ж не стрымаюся і прыводу яскравы прыклад з практыкі перакладу.

Усе памятаюць радкі з вядомага твора Барыса Пастарнака (нічуць не горшага, калі можна ўжыць гэтае слова, паэта, за Цвятаеву):

*Мело, мело во все концы,*  
*во все пределы.*  
*Свеча горела на столе,*  
*Свеча горела.*

А так гучыць верш у перакладзе Рыгора Барадуліна:

*Мяло, мяло – зямля*  
*ў святле,*  
*Наўсцяж бялела.*  
*Гарэла свечка на стале,*  
*Праз ноч гарэла.*

Калі ў Пастарнака моцнае першае двухрадкоўе – аж захлынешся прасторaю, то ў Барадуліна не меншай сілаю валодаюць два апошнія. Наколькі для мяне два таленты дапаўняюць адзін аднаго. Таму перакладам быць у Вякі Вякоў, а будаваць Бабілёнскую вежу заўсёды знойдзецца каму. Толькі вось Бог – вышэй!

**Пятая калона**

Але, відаць, і дзяржаўная палітыка ўжо такая: не перашкаджаць, па-кашачы ўпаўзаць у падсвядомасць маленькага беларусіка. А што там ужо! Вунь, адзіны сталічны лялечны толькі і мае што ў камяні замураваную назву «ЛЯЛЕЧНЫ». А ўсё астатняе – на алтар суседняй дзяржавы.

Пятая калона саматужнай русіфікацыі на беларускіх тэатральных падмостках мацнее. Нават пры былым таталітарным не рызыкнулі ўвесці рускую мову ў ТЮГ. Сумняюся, што тут шчыруюць улады. Дзе там! Тыя ж міністры культуры, відаць толькі тым і займаюцца, што «міраць» пасварыўшыхся актораў ды рэжысёраў, а на спектаклі не нагой.

Вось і запытацца б у шаноўнага спадара Сасноўскага ды Гулякі – як вы дапусцілі. што адкрытыя тэатры на пачатку 1990-х гадоў у Мазыры ды Слоніме іграюць спектаклі па-руску? І дзе? У правінцыі! Во ўжо дзе можаш наслухацца «правільнай» рускай мовы, як на вуліцы гэтых гарадоў, дык гэтак жа і са сцэнаў тамтэйшых тэатраў. Можна падумаць, што артыстаў туды дастаўлялі з цэнтральнай Расіі, у каторых прыроднае адчуванне рускага маўлення. Хаця, чым рагацік не жартуе, мо да гэтага хутка дапнём?

**Класіка**

І зноў жа, калі пытаеш кіраўніцтва тэатра ў тым жа Слоніме, чаму вы іграеце па руску, адразу чуеш сакраментальнае – ну, мы ж толькі класіку..(?) Вось вам і самапавага! Класіку – якую, чыю? А па-беларуску значыць... Ау, міністэрыя! Вы пра гэта ведаеце? Ды і што «вопрошать»? Гэта там, далёка, на правінцыі. А тут жа ў цэнтры, нават насупраць галоўнага будынку... Вось так і лезе ў галаў паскудны анекдот: «Аллё, ал-лё! Гэта прачэчная?..»

Вось даведваюся, што збіраецца беларуская інтэлігенцыя на свой Сход. Цікава, а хто там будзе прадстаўляць нашых тэатралаў? Ці ёсць сярод гэтых творцаў, словы каторых гучаць аднолькава і праўдзіва як і на сцэне, так і ў жыцці?

Даруйце, шаноўныя мае гледачы-чытачы, маю пэўную іранічнасць, але зноў і зноў мушу паўтараць сабе адну простую ісціну – шануй, паважай сябе ва ўсім. Дробязяў тут не бывае. Шануй бацькаў свайго, шануй маці сваю, шануй дом свой, шануй слова сваё ў ім. Шануй, шануй, шануй! І Бог з ім, з начальствам. Яно сёння адно, а заўтра другое. Справа ў кожным з нас паасобку, а ў мастаку – у першую чаргу.

**Ігнат САВІЦКІ**

# Талеранцыя

## *Усё змусім вытрываць і перанесці, абы вайны не было*

**Сінонім запою**

Беларусы заўжды адрозніваліся нейкай інертнасцю. Нездарма ж мы часта самі пра сябе кажам, што нас ахінула агульная млявасць і абыякавасць да жыцця. Але ж часцей усё гэта называюць талерантнасцю і памяркоўнасцю. Бадай што, з талерантнасцю можна пагадзіцца: аўтэнтычнае значэнне гэтага слова – трываласць да алкагольных напояў.

**Народ**

Фізічны стан такі ж заняпадны, як і псіхічны. Сярод дзяцей хіба толькі кожны дзесяты беларусік цалкам здаровы. І алімпійскімі медалямі тут не дужа дапаможаш. А ящчэ ў кошалях не густа. Карацей, аптымісты скажуць, што мы незаможныя і нездаровыя, песімісты – бедныя і хворыя. А што пра беларусаў як пра нацыю?.. Добра сказаць язык не паверняцца, таму – нічога. Беларускай мовы не пакідаем, але і належнай пашаны не даем, таму яна і не памірае, і не квітнее. Жыве сабе ў рэзервацыях сярод пісьменнікаў ды настаўнікаў белмовы. І не сказаць, каб гэта менавіта беларусы пачатку 21-га стагоддзя перабываюць у самым-самым што ні на ёсць крызісе як нацыя. І дзяды, і бацькі нашыя такія самыя былі. І толькі давайце не будзем пра Вялікае княства Літоўскае згадваць! Ад гэтага комплекс нацыянальнай непаўнавартасці толькі яшчэ больш паглыбіцца і ўсентыментальніцца. Мы ёсць (якія ёсць!) тут і цяпер. І паўставаць як нацыя мусім таксама тут і цяпер. На дварэ ўсё-такі 21-е стагоддзе.

**Улада**

Так, натуральна, усё завязана на палітыцы і на канкрэтных начальніках. А паколькі ў нас жорсткая прэзідэнцкая рэспубліка, то ўсё залежыць ад аднаго начальніка. На жаль, першы і другі прэзідэнт Беларусі ў адной асобе Аляксандр Лукашэнка не дужа рупіцца аб нацыянальным Адраджэнні. Была б адна бяда, дык жа і з каўбасой, як з мовай той.

**Апазіцыя**

Што праўда, тыя беларусы, якія не пакутуюць на агульную млявасць і абыякавасць да жыцця і прытым цэляць у начальнікі, таксама прыеліся народу: што яму ад мільёнаў улётак і тысяч ваяжаў нашых апазіцыянераў за мяжу, якія гавораць і робяць з года ў год адно і тое ж. Як заведзеныя лаюць злачынны рэжым і ладзяць усё радзейшыя і радзейшыя па колькасці ўдзельнікаў вулічныя акцыі пратэсту. Вада, натуральна, камень точыць, але, ох, як доўга! Часам узнікае падазрэнне, што нашыя апазіцыянеры не такія ўжо і заўзятыя дэмакраты і што цягамотная палітычная дзейнасць для многіх зрабілася прафесіяй.

**Бесперспектыўняк**

Ну як жа тут народу не будзе здавацца, што ў краіне поўны, як кажа моладзь, бесперспектыўняк. Вось чаму беларусы ўдаліся ў палітычную апатыю. Людзі папросту стаміліся ад палітыкі, ад апазіцыі, ад прэзідэнта. Нездарма зараз рэйтынг у Аляксандра Лукашэнкі, паводле апытання Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, роўны ўсяго толькі 30,5 працэнтаў, а рэйтынг палітычных партыяў не перавышае 2–3 працэнтаў. Большасць электарату на сёння нічыйная. Гэта выдатна разумеюць і ўлады, і апазіцыя. На носе парламенцкія выбары ў 2004 годзе, а за імі неўзабаве ў 2006 годзе – і прэзідэнцкія. Таму апошнімі месяцамі ўвачавідкі ўсе кінуліся мяняць імідж і нанова заваёўваць нашы з вамі сімпатыі.

Апазіцыя пасля бясплённага байкоту падчас некалькіх папярэдніх выбарчых кампаній нарэшце пайшла на мясцовыя выбары. Саветы ніякіх паўнамоцтваў у нашай «вертыкальнай» краіне не маюць, але выбары сюды – гэта выдатная трэніроўка перад выбарамі ў парламент. Але, бадай, гэта ўсё, чым пакуль пацешыла сваіх прыхільнікаў апазіцыя. Рэч у тым, што першым нумарам праз шэраг піяр-захадаў гуляе Аляксандр Лукашэнка. Як заўсёды, усе яны чыняцца ў слоўнай стыхіі – у прэзідэнцкіх прамовах.

**Трансфармацыі**

Як паслухаць апошнім часам беларускага прэзідэнта, то ён проста на вачах эвалюцыянуе ў нацыянальнага лідэра-незалежніка і ператвараецца ў рыначніка. Прыкладам, 7 лютага на рэспубліканскім семінары па ўдасканаленні аграпрамысловага комплексу Аляксандр Лукашэнка нават заявіў, што не выключана прыкладна 15 працэнтаў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў перадаць у прыватныя рукі. А трохі раней, 31 студзеня, на прэс-канферэнцыі па выніках саміта кіраўнікоў дзяржаваў СНД у Кіеве ён гаварыў пра ўмовы, на якіх можа быць Саюз Беларусі і Расіі: «Мы павінны сказаць расіянам, што вось гэта для нас святое, на гэта мы можам пайсці, на кампраміс і на саступкі, гэта для нас неістотна і гэтак далей. Калі Расія прымае гэта, мы рухаемся вось да якога аб'яднання – да саюза раўнапраўных дзяржаваў. Нераўнапраўныя адносіны выключаныя».

**Настроі масаў**

Але самае галоўнае, што Аляксандр Лукашэнка ўпершыню загаварыў пра рост незалежніцкіх настрояў сярод беларускага насельніцтва: «Мяне вельмі насцярожылі апошнія сацыялагічныя апытанні, у якіх 30–32 працэнты беларусаў усяго выступаюць за Саюз Беларусі і Расіі. Я ведаю, чаму такія лічбы. Таму што газавыя праблемы, спроба ціску на Беларусь, іншыя пытанні, мухі-катлеты і так далей – гэта паўплывала на настрой беларусаў. Беларусы проста пакрыўдзіліся... для мяне гэта пытанне – 80 працэнтаў і 30. Тады – 80 практычна. Цяпер – 30. Падзенне вельмі вялікае. Таму я хацеў бы правесці масавае апытанне, болей маштабнае, чымсьці звычайныя, рэпрэзентатыўныя, каб даведацца, што ж думаюць людзі – інтэлігенцыя, рабочы клас, сялянства, у цэлым грамадства. Прычым паставіць канкрэтныя пытанні. Без хітрыкаў, незавуаліравана. Які Саюз вы прымаеце? Часткамі ўвайсці ў склад Расіі, ці ў цэлым Беларусь увойдзе ў склад Расіі, ці гэта будуць дзве суверэнныя дзяржавы? Прапанаваць адказаць на гэтае пытанне ўсяму народу. Для мяне гэта будзе тая каляіна, па якой я буду ісці, адстойваючы пазіцыю нашага народа і фармуючы будучую супольнасць, саюз».

**Рэферэндум?**

Пасля таго, як прыканцы мінулага года Аляксандр Лукашэнка некалькі разоў паўжартам намякнуў, што пойдзе на трэці прэзідэнцкі тэрмін, усе сталі чакаць рэферэндуму па змене Канстытуцыі наконт таго, што адзін чалавек (чытай: Лукашэнка) можа быць прэзідэнтам Беларусі тры тэрміны. І вось, здаецца, намёкі перастаюць быць толькі намёкамі. «Часткамі ўвайсці ў склад Расіі, ці ў цэлым Беларусь увойдзе ў склад Расіі, ці гэта будуць дзве суверэнныя дзяржавы? Прапанаваць адказаць на гэтае пытанне ўсяму народу». Гэта і ёсць рэферэндум. Проста пакуль што гэта слова не вымаўляецца прапагандай услых, бо ў народа на яго алергія. Але грамадства ўжо пачалі піярыць.

**Гаданні?**

Рэферэндум па ўсім мае быць досыць хітры, нават вытанчаны. На ім адначасова будуць стаяць пытанні наконт незалежнасці і наконт трэцяга прэзідэнцкага тэрміну. Можна не сумнявацца, што з дапамогай татальнага кантролю над дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі і адміністрацыйнага рэсурсу, вынікі рэферэндума будуць такімі, якімі іх захоча бачыць улада. Хутчэй за ўсё будзе такім чынам: аб'яднанню з Расіяй – не, трэцяму тэрміну – так. І ніхто з апазіцыі не пікне пра фальсіфікацыі. Ну, хто, скажыце, паставіць пад сумнеў выбар народам незалежнасці? Хаця Лукашэнка пры падобных выніках рэферэндуму, калі большасць беларусаў не падтрымаюць Саюз Беларусі і Расіі, мусіць не на трэці тэрмін заставацца, а адразу ж сыходзіць у адстаўку. Бо гэта будзе азначаць, што яму выказаны недавер, што народ супраць палітыкі, якую ён праводзіў усе гады свайго прэзідэнцтва.

**А раптам цуд?**

Зрэшты, не выключаны варыянт, калі Крэмль возьме і не дасць (калі ўжо не забараніў) беларускаму прэзідэнту пайсці на трэці тэрмін, каб не ствараць падобнага прэцэдэнту на тэрыторыі свайго ўплыву ў СНД. Гэта калі, натуральна, сам прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін не падумвае пра трэці тэрмін.

Верагоднасць таго, што Лукашэнку не дадуць працягнуць сваё прэзідэнцтва пасля 2006 года, падвышае той факт, што вунь ва Украіне тамтэйшы прэзідэнт Леанід Кучма нядаўна заявіў, што па сканчэнні другога тэрміну ў 2004 годзе ён пойдзе ў адстаўку. У яго ўжо там і пераемнік фактычна ёсць – свежапрызначаны прэм'ер-міністр Віктар Януковіч. Калі так адбудзецца, то цалкам паўторыцца расійскі сцэнарый змены ўлады, калі Барыс Ельцын пакінуў пасля сябе Уладзіміра Пуціна. Гэткі самы варыянт развіцця падзеяў можа быць запушчаны і рэалізаваны і ў нас у Беларусі. Так што ўжо можна гадаць, хто будзе пераемнікам у А.Лукашэнкі.

**Сюрпрыз будучыні?**

Лёс можа пасмяяцца з самых зацятых цяперашніх працаўнікоў Лукашэнкі, і яны яшчэ будуць успамінаць добрыя часіны незалежнай Беларусі, што былі за ім.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

---

**Віктар ГАМУЛІЦКІ**

Віктар Гамуліцкі (псеўданім Фантазы, 1848–1919), польскі пісьменнік, даследчык літаратуры, выдавец, бібліяфіл, даследчык гісторыі Варшавы; паэмы, зборнікі вершаў, гістарычныя раманы «Цудоўная гараджанка», «Меч і локаць», і інш., а таксама гістарычныя нарысы і эсэ; аўтабіяграфічны раман «Успаміны блакітнага мундурыка»

**У Беларусі**

На беларускіх гонях сонна млее ціша,
Як зольнай мглы павеў;
А ў беларускіх хатах шэпт псальма калыша
Журботнай скрыпкі спеў.
Тут сонца цьмяна лье праменне,
На тварах таямнічна цені
Ляжаць, як дух у затаенні,
Што выжыць тут сумеў.

Беларуска-дзеўчына у гнеў не ўпадзе –
Рэдка пачуеш смех.
Затое дух упарцісты і моцны мае -
Анёлак нізкіх стрэх.
[illegible] характар яе – статэчны,
[illegible] і гонар – сардэчны,
[illegible] ханні – вечны,
[illegible] – грэх.

Бе[illegible] – філосафы долі;
А[illegible]лы ў [illegible]ок;
Ц[illegible]кія ў полі, хаце, карчме і ў касцёле,
Сонна-вялы ў іх зрок.
«Ты спіш, а доля пышным кветам!» –
[illegible] так тут зімой і летам –
І журботна-радасна гэтак
Плыве жыцця паток.

У беларусаў не любяць мяняць сумневы –
Бо і сам свет такі ж !
Яны з курганоў слухаюць небылі, спевы, –
І што кажа ім крыж...
Чуюць Бога ў віхураў хоры,
Бачаць Яго ў шчасці, і ў горы,
У стрэсенай громам прасторы
Шукаюць Бога звыш...

О [illegible]руская мова! Твой спеўны гук будзіць
Рэха [illegible] гадоў –
Табой усце[illegible]іралюбныя людзі
Дзеці пушчаў, садо[illegible]
У [illegible]чы славянскага [illegible]
Т[illegible]сенька жаўручкова
[illegible] салодкая мова –
[illegible] цвет.

Беларуская пес[illegible] Як гэты край сівы, –
Т[illegible] сумнай песты чар;
З курганоў і ма[illegible] твае ўсе малітвы,
З[illegible]енку сялян твой шарм...
Сёння цвіцеш ў забытым сненні, –
А як майстар спяе ў натхненні,
[illegible]ет застыне ў нямым здзіўленні –
[illegible] ім душа.

О народ беларускі! [illegible] навалы,
Зашумяць зноў лясы;
І загучаць у адзіным суладным хо[illegible]
Ўсіх славян галасы.
А ў ім твой – званочак вясновы,
Як золак птушынае мовы;
Мілажальны і адмысловы, –
Спелы колас красы.

**Пераклаў з польскай Васіль СЁМУХА**

# У старажытнай цагельні

Шырокае мураванае будаўніцтва ў XVI–XVII стст. патрабавала ўсё больш разнастайных будаўнічых матэрыялаў і, у першую чаргу, цэглы. Як жа трапіла яна ў Беларусь?

**Не адну тысячу гадоў налічвае гісторыя цагельнай справы. Зарадзілася яна ў краінах Усходу, дзе не было ў дастатковай колькасці дрэва і каменю, неабходных для ўзвядзення манументальных пабудоў. У Еўропе цэглу ўпершыню сталі вырабляць рымляне, але яна не стала іх галоўным будаўнічым матэрыялам. У часы ранняга сярэднявечча выраб цэглы ў Еўропе быў у заняпадзе і бурна развіваўся толькі ў Візантыі, дзе захоўваліся традыцыі рымскіх цагельнікаў. Для яе ўласціва квадратная форма і невялікая (да 4–5 см) таўшчыня.**

У Кіеўскую Русь цэгла трапіла разам з візантыйскімі дойлідамі ў X ст. і атрымала назву «плінфа». Упершыню на Беларусі плінфа ўжыта ў муроўцы Полацкай Сафіі. Потым мураваныя пабудовы з яе выкарыстаннем узводзяцца ў Полацку, Віцебску, Гародні, Тураве і іншых гарадах. На Беларусі кароткі бок цагліны называлі старчаком, а доўгі – рубам. Потым, пад уплывам рускай архітэктуры, «старчак» стаў «тычком», а «руб» – «лажком».

У XII ст. адначасова ўжывалася плінфа двух (і болей) памераў. Прычым адзін з іх быў асноўным, а іншыя складалі 20–30% ад агульнай колькасці. Старажытную полацкую, віцебскую і гародзенскую цэглу выраблялі ў спецыяльных формах з драўляным дном. Пра гэта сведчаць адбіткі дошак на гліне і спецыяльныя знакі, якімі майстры часам пазначалі сваю прадукцыю. Знакі – гэта паглыбленні, выразаныя ў бакавых сценках і дне некаторых драўляных формаў. Цікава, што гародзенская плінфа мае знакі толькі на тычках, а полацкая і віцебская – на тычках і адным з шырокіх бакоў. Часта полацкія і віцебскія цагельнікі пазначалі сваю прадукцыю яшчэ і спецыяльнымі штампамі, якія пакідалі паглыбленыя сляды-клеймы. Відаць, сярод цагельнікаў (а іх у старажытных летапісах называлі плінфатварыцелямі) былі пісьменныя людзі, бо іх знакі маюць выгляд не толькі крыжыкаў, трох зубцоў, стрэлачак і іншых геаметрычных знакаў, але і розных літар. Так, падчас раскопак гародзенскай мураванай сцяны мы знайшлі шмат плінфы са знакамі ў выглядзе літар А, Б і В. Знакі ў выглядзе літар вядомы і на полацкай цэгле. Часам на цэгле XI–XII стст. сустракаюцца розныя малюнкі і нават надпісы.

Абпальвалі плінфу ў спецыяльных печах, складзеных з цэглы. Яны былі напольнымі (г.зн. стаялі на роўным месцы – полі) або ўпускаліся ў схіл якога-небудзь пагорка (звычайна, высокага берага ракі).

У другой палове XIII ст. плінфу ў беларускім манументальным будаўніцтве змяняе буйнапамерная брусковая цэгла. Зойдзем на хвілінку ў майстэрню цагельніка XV ст. Гэта быў майстар, якому дапамагалі некалькі чалавек. Цэгла рабілася на спецыяльным шырокім драўляным стале. Форма ўяўляла сабою дзве збітыя разам прамавугольныя скрынкі, акаваныя жалезам і з ручкамі па баках. Цагельнік спрактыкаваным кідком запаўняў іх глінай, потым запіхваў кавалачкі гліны ў куткі формы, а гліняныя рэшткі зграбаў рукою або драўлянай дошчачкай.

Ад пальцаў майстра на паверхні цагліны часам заставаліся неглыбокія сляды. Пазней заўважылі, што калі ў паглыбленні на цэгле трапляе вапна, то муроўка робіцца больш трывалай. Пачынаючы з XV ст. некаторыя майстры пачалі спецыяльна рабіць такія барозны глыбейшымі. І рабілі гэта не толькі пальцамі, але і спецыяльнымі прыладамі, накшталт шырокага грэбня. Такая цэгла XV–XVI стст. знойдзена ў Горадні.

Набітыя глінай формы памочнікі майстра пераносілі на роўную пляцоўку, часам пасыпаную пяском, і асцярожна вытрасалі цэглу для прасушкі. Праз дзень цагліны ставілі на кант, а потым складалі ў «казлы», дзе яны сушыліся 20–30 дзён. У тыя часы цэглу рабілі і сушылі пад адкрытым небам, недалёка ад жылля цагельніка. Пра гэта расказалі вучоным сляды дажджу і лап розных свойскіх жывёл, якія час ад часу прабягалі па сырой цэгле, раскладзенай для прасушкі. Калі сабраць такую цэглу, можа атрымацца калекцыя адбіткаў лап сабак, катоў, свіней, коз, а часам і дзікіх звяроў і нават птушак, якія вадзіліся ў нашым краі ў XVI–XVIII стст. Вядома адна цагліна XVI ст. з Мірскага замка з адбіткам ног дзіцяці, напэўна, сына ці дачкі мясцовага цагельніка. Толькі ў XIX ст. цэглу паўсямесна сталі сушыць у драўляных буданах, і адбіткі на ёй назаўсёды зніклі.

Цікава, што ў Маскоўскай дзяржаве, дзе цэгла масава пачала вырабляцца толькі з XV ст., гліну ў форму набівалі не рукой, а нагой. Такі метад вырабу цэглы называецца «падпятны».

Абпальвалі цэглу альбо ў полі (прымітыўны спосаб, характэрны для вёскі), альбо ў печы. Падчас археалагічных раскопак у Мірскім замку, недалёка ад галоўнага ўваходу, знойдзены рэшткі напольнай печы пачатку XVI ст., у якой і абпальвалі цэглу для пабудовы замка. Дзесьці побач абпальвалі і дахоўку, бо кавалкі спечаных ад вялікай тэмпературы пляскатых даховак XVI ст. сабраны ў розных месцах замкавага двара.

Пляскатую дахоўку выраблялі таксама ў драўляных формах. Як і цэгла, яна мае характэрныя барозны – сляды пальцаў альбо грабянца. Падобным чынам выраблялі і непаліваныя пліткі для падлогі.

Паліваныя пліткі для падлогі і паліваную дахоўку маглі вырабляць і гарадскія ганчары, якія засвоілі выпуск паліванай кафлі і сталовага посуду. Асабліва развівалася вытворчасць паліваных плітак рознага колеру (зялёных, карычневых, нават блакітных) для падлогі ў канцы XVI – першай палове XVII ст.

На працягу XV–XVII стст. выраблялася зялёная, светла-карычневая і нават белая паліваная дахоўка. У XV–XVI стст. была пашырана паліваная гатычная вільчаковая дахоўка паўцыркульнай формы. Пазней, на працягу XVII ст., з майстэрань ганчароў выходзіла пляскатая паліваная дахоўка, часам аздобленая рэльефным арнаментам у выглядзе рыбінай лускі. Такую дахоўку знайшлі археолагі ў Гродне, Магілёве і Мсціславе. У Мсціславе была знойдзена паліхромная рэльефная дахоўка. Такая ж дахоўка некалі аздабляла дах Каложскай царквы ў XVI–XVII стст.

З XIII па XVIII ст. ужывалася і спецыяльная профільная цэгла: стрэлападобнай формы для выкладкі кантаў нервюр, а таксама іншых узораў для паўкалонак, ніш, аркатурных паясоў, аконных і дзвярных праёмаў і іншых элементаў цагляных будынкаў. Узоры яе знойдзены ў культурных пластах Лідскага, Крэўскага і Мірскага замкаў, у Гродне, Мінску, Наваградку, Віцебску, Полацку і іншых населеных пунктах. Найбольш пашыранымі спосабамі вырабу такой цэглы былі фармоўка і абсклюдаванне (абрэзка цагліны-сырцу звычайнай формы спецыяльным нажом для надання патрэбнай формы). Напрыклад, уся профільная цэгла з Сынковіцкай царквы і Мірскага замка спачатку выразалася з сырцу, а потым абпальвалася. Нервюрная цэгла з Лідскага, Крэўскага, Гродзенскага і Віцебскага замкаў фармавалася адразу.

На буйнапамернай цэгле амаль заўжды адсутнічаюць знакі, уласцівыя плінфе (выключэннем з'яўляецца гатычная цэгла XV ст. з Уселюбскага касцёла), але клеймы і асабліва меткі (вывы, нанесеныя пальцамі ці вострым інструментам) сустракаюцца на працягу XIV–XVI стст. Меткі вядомы на цэгле з Гродзенскага, Лідскага і Мірскага замкаў, а клеймы (чатыры варыянты) – на мірскай. Вельмі цікавая цагліна знойдзена ў Пінску. Яе бакавыя грані аздоблены рэльефным раслінным арнаментам.

Сімволіка разнастайных выяў на старажытнай цэгле часта звязана з пэўнымі асаблівасцямі цагельнай вытворчасці і да канца не вытлумачана.

У канцы XVIII ст. на Беларусі з'явіліся першыя цагельныя заводы. Да 1917 г. яны належалі прыватным уладальнікам і мецілі сваю прадукцыю спецыяльнымі клеймамі, на якіх можна было прачытаць імя ўладальніка альбо назву фірмы, што выпускала цэглу альбо дахоўку. Гэтая ж традыцыя захавалася на тэрыторыі Заходняй Беларусі да 1939 г. У БССР усе дзяржаўныя цагельныя заводы таксама мецілі цэглу заводскімі клеймамі.

У XIX–XX стст. існавала заводская вытворчасць дахоўкі і плітак падлогі. У гэты час выраблялі традыцыйную хвалістую дахоўку, тонкую пляскатую і рэльефную (марсельскую) дахоўку, а таксама дэкаратыўную вільчаковую дахоўку.

У канцы XIX – пачатку XX ст. выраблялі нават цэментную і шкляную дахоўку. У гэты час быў пашыраны выраб шматколернай (метлахскай) пліткі для падлогі ў багатых будынках. Вытворчасць розных керамічных будаўнічых матэрыялаў у гэтыя часы адпавядала самым сучасным еўрапейскім тэхналогіям і стандартам.

**Алег Трусаў,**
**кандыдат гістарычных навук**



Былы манастырскі будынак XVII ст. Няма тых людзей, няма той веры, а мур як новы, калі пафарбаваць

Фота У. Шлапак

## Адраджэнне майстэрства – патэнцыйная крыніца даходаў

Зараз назіраецца паварот увагі ўладаў да рэстаўрацыі архітэктурнай спадчыны. Мір і Нясвіж - яскравыя сведчанні такіх зменаў. Праграма аднаўлення закранае мноства помнікаў, якія паціху руйнаваліся дзесяцігоддзі. Нарэшце ўлада асэнсавала, што помнікі старажытнасці, пабудовы, звязаныя з падзеямі даўніны і выбітнымі асобамі, цікавяць замежных турыстаў, і таму, маючы што ім паказаць, можна значна папаўняць бюджэт, не гаворачы ўжо пра развіццё адпаведных галінаў вытворчасці і абслугоўвання, дадатковыя рабочыя месцы ў рэгіёнах і паляпшэнне агульнай культурнай атмасферы. Але для рэстаўрацыі помнікаў патрэбны адпаведныя матэрыялы, прыкладам, гонта, добрая цэгла, традыцыйная, а не металічная дахоўка і г.д. Старыя менчукі памятаюць завод дахоўкі, які працаваў у Драздах. Тады ўсё ждановіцкае наваколле мела чырвонае пакрыццё на дахах дамоў і гаспадарчых пабудоваў. Потым завод зачынілі, і дахоўку для патрэбаў рэстаўрацыі, у прыватнасці, Траецкага прадмесця, куплялі ў Літве. Каштуе яна дорага. Дорага каштуе і фасадная цэгла, якую ў нас раней умелі вырабляць, а цяпер няма дзе. Адкрыццё спецыялізаванага завода для вытворчасці хоць бы цэглы і дахоўкі не толькі б сэканоміла пэўныя грошы пры закупках, але дазволіла б самім пастаўляць яго замежным спажыўцам. Магчыма, знойдуцца разумныя інвестары ў такую справу.

# Уплыў праз нафту

У Электранаі, недалёка ад Каўнуса, знаходзіцца цеплаэлектрастанцыя – адзіная ў Літве, якая працуе на арымульсіі – сумесі тыпу вада-масла, якую Літва імпартуе з Паўднёвай Амерыкі, найперш з Венесуэлы. Гэтае прадпрыемства сімвалізуе надзею Літвы ў барацьбе з энергетычнай залежнасцю ад Расіі. ЕС разглядае ўжо 40-працэнтную залежнасць ад аднаго пастаўшчыка як небяспечную, а Літва амаль цалкам залежыць ад паставак расейцаў.

Калі да 2009 года, згодна з патрабаваннямі ЕС, будзе зачынена атамная электрастанцыя ў Інгаліне, уся літоўская энергетыка апынецца ў залежнасці ад расійскіх паставак нафты ці газу. У сярэдзіне мінулага года Літве прыйшлося задаволіцца фінансавай падтрымкай ЕС у памеры толькі адной дзесятай часткі ад патрэбных выдаткаў на закрыццё Ігналінскай АЭС. «Але мы зачынім АЭС толькі тады, калі адбудуцца далейшыя выплаты», – папярэджваюць літоўцы.

### Здзелка за плячыма

Згодна з дадзенымі літоўскага ўраду, закрыццё Ігналінскай АЭС і пераход на іншыя крыніцы энергіі абыдзецца да 2020 года прыкладна ў 2,4 мільярда еўра. Брусель пакуль што гарантуе Літве толькі 105 мільёнаў еўра на 2004 год і па 70 мільёнаў на 2005 і 2006 гады. Калі дадуць яшчэ 2 мільярды еўра – невядома.

Практычна 100 адсоткаў літоўскай патрэбы ў нафце і газе пакрывае Расія. І яна робіць усё, каб становішча не змянілася. Прыклад – літоўскі порт Буцінге на мяжы з Латвіяй. На пачатку 1990-х гадоў у Буцінзе быў узведзены сучасны нафтавы тэрмінал, які патрабаваў укладання вялізнага капіталу. Гэта павінна было дазволіць Літве атрыманне нафты з іншых краін морам. Аднак высветлілася, што пакупка нафты ў Нарвегіі ці ў Злучаных Штатах абыходзіцца надта дорага. Сёння тэрмінал у Буцінзе выжывае дзякуючы выкарыстанню ў якасці транзітнай базы для расійскага нафтавага экспарту на Захад. У гэтай справе важную ролю адыгрывае Mazeikiu Nafta – адзіны нафтазавод у Літве. Пры яго прыватызацыі ў 1998 годзе ўрад прыклаў максімум намаганняў, каб знайсці амерыканскага інвестара. Нафтавы канцэрн Williams здаўся сапраўдным партнёрам. Аднак у жніўні 2002 года амерыканцы абвесцілі пра продаж свайго пакету акцыяў расійскаму акцыянеру ЮКАС. Адпаведнае пагадненне з расейцамі Williams заключыў за плячыма літоўскага ўраду. Здрада амерыканцаў выклікала ў Вільнюсе палітычны землятрус. Бо, нягледзячы на ўваход у НАТО і ЕС, Літва ў сектары эканомікі па-ранейшаму залежыць ад Расіі.

### Крэмль захоўвае ўплыў

Тагачасны расійскі прэзідэнт Барыс Ельцын высунуў фундаментальны прынцып – зрабіць Прыбалтыку буфернай зонай паміж Расіяй і Захадам і захаваць яе як расійскую зону ўплыву.

Таму з самага пачатку расійскія фірмы актыўна ўдзельнічалі ў літоўскім працэсе прыватызацыі. Цяпер расійскі дзяржаўны энергетычны гігант «Газпрам» рыхтуецца прыняць цеплавую электрастанцыю ў Каўнасе. Вынікі гэтага адпаведна паспрыяюць захаванню расійскага ўплыву.

**Berliner Zeitung**

# *Ацэнка магчымых стратаў Ірака*

ААН падлічвае магчымыя страты іракцаў у выпадку вайны. Прагнозы вельмі драматычныя. Па ацэнках Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (САЗ), каля 500.000 жыхароў Ірака могуць «у большай ці меншай ступені мець патрэбу ў медыцынскай дапамозе як вынік атрыманых у ходзе вайны паражэнняў». САЗ лічыць, што 100.000 мірных жыхароў Ірака могуць атрымаць раненні і яшчэ 400.000 чалавек – захварэць пасля таго, як будуць разбомбленыя сістэмы водазабеспячэння і каналізацыі. «У адносінах харчавання каля 3 мільёнаў чалавек апынуцца ў цяжкім стане і будуць мець патрэбу ў тэрапеўтычным харчаванні», – адзначана ў дакладзе дзіцячага фонду ААН. Каля чатырох пятых гэтых ахвяраў – дзеці ва ўзросце да 5 гадоў. Астатнія – цяжарныя жанчыны і маці з немаўлятамі. Звыш за 16 мільёнаў іракцаў залежаць ад штодзённага «харчовага кошыка» прадуктаў, такіх як рыс, цукар, мука, алей, якія бясплатна раздае ім урад Ірака.

У выніку бамбавання пацерпіць электрычная сетка краіны. На сённяшні дзень 70 працэнтаў насельніцтва Ірака атрымліваюць пітную ваду праз водаачышчальныя ўстаноўкі, якія маюць рэзервовыя дызель-генератары, але калі яны таксама будуць выведзены з рабочага стану, колькасць людзей, якім пагражае небяспека застацца без вады, рэзка ўзрасце. З аб'ектаў каналізацыйнай сеткі рэзервовымі дызель-генератарамі забяспечаны толькі 10 працэнтаў, таму ў выніку бамбавання могуць хутка ўзнікнуць халера і дызентэрыя.

Па ацэнцы вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў, звыш 900.000 іракцаў могуць уцякаць у Іран, астатнія бежанцы накіруюцца ў Кувейт, Сірыю, Іарданію ці Турцыю. Яшчэ 2 мільёны чалавек могуць змяніць месца пражывання ўнутры краіны.

Па некаторых ацэнках, страты ў Іраку могуць аказацца ў 5 разоў вышэйшыя, чым былі ў выніку вайны 1991 года ў Персідскай затоцы. Тады памерлі да 15.000 мірных жыхароў і загінула да 120.000 іракскіх вайскоўцаў.

**The Guardian**

# Зноў «матрошка»

## *Які праект аб'яднання ў «саюз» прыгатавалі заканадаўцы Расіі і Беларусі?*



У веданні «Независимой газеты» аказаўся праект Канстытуцыйнага акта Саюзнай дзяржавы, ухвалены рабочай камісіяй Парламенцкага сходу Саюза Расіі і Беларусі.

Як адзначылі сустаршыні камісіі Генадзь Селязнёў і яго мінскі калега Уладзімір Папоў, праект даведзены да такой ступені падрыхтаванасці, калі яго можна падаваць прэзідэнтам абедзвюх дзяржаваў і выносіць на абмеркаванне Вышэйшага дзяржсавета Саюза (гэта мяркуецца зрабіць у сакавіку).

Сёння можна ўжо дакладна судзіць аб тым, на якой мадэлі інтэграцыі спынілі свой выбар заканадаўцы Расіі і Беларусі. Красамоўная сама назва падрыхтаванага двухбаковай камісіяй дакумента – «Канстытуцыйны акт Саюзнай дзяржавы». Гаворка, такім чынам, ідзе аб адзінай дзяржаве. Распрацоўшчыкі не даюць яму «ўласнага імя», але абсталёўваюць усімі атрыбутамі дзяржаўнасці. Гэтае новаўтварэнне будзе мець суверэнную тэрыторыю, якая ўключае тэрыторыі РФ і Беларусі, у яго будуць адзіная валюта і адзіны цэнтр яе эмісіі, адзінае грамадзянства, уніфікаванае заканадаўства, органы кіравання гэтай дзяржавы будуць карыстацца адной «рабочай мовай» – рускай.

Праўда, у тым жа праекце (арт. 2) гаворыцца: «Суб'екты Саюзнай дзяржавы захоўваюць з улікам добраахвотна перададзеных саюзнай дзяржаве суверэнітэт, незалежнасць, тэрытарыяльную цэласнасць, міжнародныя правасуб'ектнасць і праваздольнасць...» У агульным кантэксце гэтая дэкларацыя выглядае жэстам палітычнай ветлівасці. Паколькі суверэнітэт абодвух суб'ектаў заканчваецца там, дзе пачынаецца сфера «добраахвотна перададзеных Саюзнай дзяржаве паўнамоцтваў», цікавіць пералік гэтых паўнамоцтваў – ён выкладзены ў арт. 32.

Да выключнага распараджэння саюзнай дзяржавы адносяцца: «адзіная грашова-крэдытная, валютная, падатковая і цэнавая палітыка», «адзіныя правілы канкурэнцыі і абароны правоў спажыўцоў», «адзіная гандлёвая і мытна-тарыфная палітыка ў адносінах трэціх краінаў», «адзінае заканадаўства аб замежных інвестыцыях», «функцыянаванне рэгіянальнай групоўкі войскаў», «статыстычны і бухгалтарскі ўлік» і інш.

Наступны артыкул праекта акрэслівае вобласць сумеснай кампетэнцыі суб'ектаў праектаванай дзяржавы. Яна таксама мае вялікі абсяг. І ўключае, у прыватнасці, «узаемадзеянне ў сферы знешняй палітыкі», «абаронную палітыку», «міжнароднае супрацоўніцтва па ваенных і памежных пытаннях», «развіццё навукі, адукацыі, культуры», «пытанні занятасці, міграцыі, умоваў працы і яе аховы, сацыяльнага забеспячэння і страхавання» і г.д.

Далей ідзе артыкул 34 – самы лапідарны ў гэтым раздзеле. Тут распрацоўшчыкам трэба было пазначыць, «якія сегменты распараджэння» застаюцца ў выключнай уласнасці кожнай краіны, што аб'ядналіся ў адну. Аўтары праекта зрабілі вельмі проста: суб'екты саюза незалежныя і поаўнапраўныя ва ўсім, што не пералічана ў двух папярэдніх артыкулах. Што б гэта магло быць – уявіць надта цяжка. Ва ўсялякім выпадку, за межамі гэтых пералікаў не засталося нічога, што прынята лічыць атрыбутамі дзяржаўнага суверэнітэту.

Такім чынам, распрацоўшчыкі праекта «пабудавалі» федэратыўную дзяржаву «матрошчанага тыпу» (Беларусь уваходзіць «адным кавалкам», а ў РФ укладзена яшчэ 89 суб'ектаў Федэрацыі).

У складзе рабочай камісіі, якая рыхтавала гэты акт, ёсць разам з тым і прыхільнікі канфедэратыўнай мадэлі аб'яднання. У асноўным гэта прадстаўнікі Беларусі. Камісія саступіла іхнай настойлівасці, бо ўзялася за канструяванне органаў улады саюзнай дзяржавы. У выніку да ўжывання рэкамендаваны не прыняты ў «нармальных» федэрацыях прынцып фарміравання вышэйшых органаў кіравання: замест простага выбрання парламента і вышэйшых адказных асоб прадугледжваецца працэдура дэлегавання.

Так, двухпалатны саюзны парламент будзе складацца з дэпутацый, дэлегаваных нацыянальнымі парламентамі. Абедзве старшыні Вышэйшага дзяржаўнага савета (у іншым варыянце – прэзідэнта) Саюзнай дзяржавы выпадае пачаргова выконваць ачольнікам Расіі і Беларусі. Адна з мадэляў можа выглядаць так: Аляксандр Лукашэнка – прэзідэнт Саюзнай дзяржавы, Уладзімір Пуцін – віцэ-прэзідэнт. Потым яны мяняюцца месцамі. На такіх жа канфедэратыўных пачатках фарміруецца і дзейнічае і Савет міністраў Саюзнай дзяржавы.

Як магчыма было зразумець з тлумачэнняў Генадзя Селязнёва, «элементы канфедэралізму» якраз і ёсць асновай супярэчнасцяў паміж аўтарамі Канстытуцыйнага акта. Для беларускага боку гэтыя элементы – апошні бастыён нацыянальнага суверэнітэту. Калі здаць яго, тады інтэграцыя Расіі і Беларусі набудзе выгляд «інтэграцыі Беларусі ў Расію». Маскоўскіх экспертаў засмучае яўная недарэчнасць канфедэраліцкіх «замарочак» пры тым падзеле прадметаў распараджэння, аб якім распрацоўшчыкі дамовіліся вышэй. Прынцып дэлегавання, прыняты для камплектавання інстытутаў улады, мае на ўвазе, што нацыянальныя органы валодаюць большай кампетэнцыяй, большым аб'ёмам паўнамоцтаваў, чым саюзныя, хоць насамрэч будзе наадварот.

Але ў дадзеным выпадку ўсё «роўна наадварот». Практычна ўся паўната ўлады знаходзіцца ў інстытутаў Саюзнай дзяржавы, а фарміруюць гэтыя інстытуты нацыянальныя органы кіравання, якія мала што вырашаюць. Агульнавядомая загана такога падзелу функцый – татальная безадказнасць усёй іерархіі кіравання.

**Ng.ru**

# Манія велічы



***«Гісторыя апраўдвае ўсё, што заўгодна. Яна абсалютна нічому не вучыць, бо ўтрымоўвае ў сабе ўсё, і ў ёй можна знайсці любыя прыклады. Яна самы страшны прадукт, які выпрацоўвае чалавечы мозг!»***

***Поль Валеры***

Працэс рэстаўрацыі капіталізму, у рэчышча якога была пераведзена перабудова канца 1980-х гадоў, суправаджаўся і аднаўленнем шэрагу самшэлых феадальных інстытуцыяў, але не толькі «традыцыйнай царквы» пад сцягам адраджэння «гістарычнай справядлівасці» і «сапраўднай духоўнасці». Як ні дзіўна, аднавіліся і пускаюць карані ў грамадства арганізацыя саслоўнага характару і зместу, адлюстроўваючы новы падзел на багатых і бедных і моцнае жаданне першых аддзяліцца ад другіх і падкрэсліць сваю новую кланавую прыналежнасць хоць бы знешнімі пазнакамі. Найбольш гэта прыкметна на прыкладах з жыцця Расіі, дзе большыя магчымасці для накаплення грамадных прыватных капіталаў і дзе шавіністычныя вялікадзяржаўныя амбіцыі мелі і маюць урадлівую глебу. Але і па іншых былых рэспубліках СССР таксама новы клас уласнікаў, які не можа існаваць па-за межамі эксплуатацыі, змушаны нейкім чынам асцяерагаць сваю маёмасць і свае магчымасці яе не страціць. Таму ствараюцца партыі ўлады, якія дапамагаюць вярхушачным слаям маніпуляваць грамадствам і грамадскай думкай. Аднак побач з гэтымі дэмакратычнымі па форме суполкамі мусяць дзейнічаць закрытыя клубы, якія аб'ядноўваюць рэальных трымальнікаў улады. Феадальная атрыбутыка надае ім таямнічы арэол, абманлівы выгляд бяскрыўднай забаўкі. Хутчэй за ўсё адпавядае пэўным заганам нашай слабой грамадскай культуры, дрэннага выхавання на гістарычным вопыце і псіхалагічных хібах «новых рускіх», якім карціць пералезці з гразі ў князі.

У Беларусі такіх прыкладаў, ва ўсялякім разе гучных і скандальных, пакуль не засведчана. Аб'яднанне беларускай шляхты, якая намагаецца шанаваць феадальную даўніну, ужо толькі ў сілу традыцыйнай беднасці нашага высакароднага саслоўя не можа ніяк уплываць на грамадскае жыццё, а людзі багатыя баяцца заяўляць аб сваіх прэтэнзіях мець на грудзях знак нейкага няўрадавага Ордэна, які можа быць успрыняты падатковай паліцыяй як адрас для нанясення візіту.

Тым не менш, памятаючы з гісторыі, што любы Ордэн, з якіх бы добрых задумаў не пачынаў сваё існаванне, у рэшце рэшт, ператвараўся ў агрэсіўную фінансавую ці ваенную арганізацыю, якая дамагалася сваіх карпаратыўных мэтаў. Само існаванне Ордэнаў ужо сведчыць, што рыцары ўжо ў сядле і выправіліся за здабычай ці ратуюць яе.

### Украінскія шэвалье

Ва Украіне адбыўся лёгкі скандал. Ляўко Лук'яненка, сябра парламенцкай фракцыі Блока Юлі Цімашэнка, звярнуўся да старшыні Вярхоўнай Рады з просьбай паінфармаваць парламент аб тым, хто з народных абраннікаў належыць да масонскіх арганізацыяў. Ён заявіў, што «на чале ўкраінскай дзяржавы стаяць людзі, якія кіруюцца не ўкраінскай нацыянальнай ідэяй, а прынцыпамі масонства».

Лук'яненка ўсё ж палічыў неабходным падзяліцца сваімі звесткамі і абвясціў, што да «масонства» належаць, у прыватнасці, «старшыня Дзяржаўнай падатковай адміністрацыі Юры Краўчанка, першы віцэ-прэм'ер Мікола Азараў, былы прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук, былы міністр абароны Аляксандр Кузьмук, цяперашні міністр абароны Уладзімір Шкідчанка, ачольнік Службы бяспекі Украіны Уладзімір Радчанка, генеральны пракурор Святаслаў Піскун і шмат хто іншы з уплывовых асоб.

Лідэр СПУ Аляксандр Мароз паведаміў, што фракцыі Сацыялістычнай партыі, Камуністычнай партыі і Блока Юлі Цімашэнка рыхтуюць палітычную заяву аб тым, што каля 300 вышэйшых кіраўнікоў дзяржавы ўваходзяць у масонскую ложу «Ордэн Святога Станіслава». Раней у прэсе ўжо праходзіла інфармацыя аб нібыта меўшым месца ў Кіеве ў верасні 2001 года міжнародным восеньскім балі кавалераў «Ордэна Святога Станіслава», існаванні «Вялікага прыярата Ордэна» ва Украіне. Запрашэнні на тую імпрэзу інтрыгавалі паведамленнем, што на балі будуць (апроч прадстаўнікоў Ордэна ў замежных краінах) «Вялікі прыёр шэвалье Павел В'янаў, кавалерственная дама Людміла Кучма, кавалерственная дама Надзея В'янава, шэвалье Леанід Кравўчук, шэвалье Валеры Пуставойтэнка, шэвалье Мікола Азараў, шэвалье Васіль Крэмень, шэвалье Віктар Скапенка ды іншыя кавалеры і дамы Ураінскага Прыярату... Строі вячэрнія. Для кавалераў – ордэнскія знакі або мініяцюры».

Зразумела, што не толькі для сацыялістычнага, але і для простага дэмакратычнага вуха ўсе пералічаныя шэвалье і кавалерственныя дамы – ашаламляльная нечаканка, непаважнае прывітанне з глыбіні часу, тым болей дзіўнае, што Ордэн св. Станіслава мае неаспрэчныя польскія карані, хоць і быў адным з ордэнаў Расійскай імперыі. Хоць нейкім чынам стасавацца з Украінай яму немагчыма. Таму ягоны сённяшні Статут, абавязкі яго «кавалераў» – пакуль загадка. Аднак яго можна лічыць «даччынай фірмай» больш моцных рыцарскіх установаў.



### «Ордэн Арла»

Ініцыятарам і пачынальнікам стварэння масонскай ложы «Ордэн Арла» ў Расіі быў вядомы ў пачатку 1990-х гадоў золатадабытчык Вадзім Туманаў. У «Ордэн Арла» ўваходзілі з самага пачатку спявак Іосіф Кабзон, эканаміст і прэм'ер-міністр Ягор Гайдар, пазней уступіў у Ордэн Віктар Чарна-



мырдзін. Знак гэтага ордэна атрымаў і Генадзь Селязнёў.

Ордэн хутка ўзрос у моцную арганізацыю і стаў міжнародным. Цырымоніі ўручэння ўзнагародаў Ордэна не аднойчы праходзілі ў лепшых залях Крамля з дазволу прэзідэнта Барыса Ельцына пры вялікай колькасці запрошаных. У 1994, 1995 і ў лютым 1997 года знакі Ордэна ўручалі ў Савеце Федэрацыі, у верасні 1997 года – у Дзяржаўнай Думе.

У «Ордэн Арла» ўвайшлі не толькі палітыкі Анатоль Чубайс, Ягор Строяў, Юры Лужкоў, але і шмат дзеячаў культуры, напрыклад, Ала Пугачова, Гары Каспараў, Юры Нікулін, меў дачыненні да Ордэна Яўген Прымакоў.

З «Ордэна Арла» пачалі нараджацца іншыя масонскія арганізацыі. Сакратар «Ордэна Арла» Сяргей Уласаў цяпер ачольвае «Ордэн Святога Канстанціна Вялікага». Былы кіраўнік «Ордэна Арла» Рафаіл Бегішаў кіруе «Ордэнам Святога Станіслава». Ён праводзіў масавы прыём у Ордэн – болей за сто чалавек адначасова, цырымонія адбывалася ў Прэзідэнт-гатэлі. Першы ўзнос новапрынятага дасягаў значнай сумы – 30 тысяч даляраў. Так што простаму чалавеку патрапіць у ордэнскія шэрагі нерэальна.

Афіцыйны статус няўрадавай і недзяржаўнай узнагароды ордэн Арла атрымаў у жніўні 1993 года, калі быў зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі РФ. Знак ордэна ўяўляе сабой васьміпрамянёвую зорку з круглым медальёнам унутры, па зялёным краю якога ідзе лацінскі надпіс «Lex salus populi suprema» («Дабро народа – вышэйшы закон»). Зорка мацуецца да шырокай стужкі цёмна-зялёнага колеру з жоўтай каймой. Ордэн скарыстоўвае масонскую сімволіку і зроблены з золата, серабра і каштоўных камянёў.

### Кавалеры ордэна Арла

Ордэн мае чатыры ступені. Вышэйшай узнагароджваюцца асобы, «якія ўзначальваюць ордэнскую арганізацыю». Першая ступень прызначана «для ўзнагароджання асоб за дзейнасць агульнанароднай ці міжнароднай значнасці». Другая ступень – «для ўзнагароджання асоб за дзейнасць галіновай ці агульнароднай значнасці», а трэцяя – «за дзейнасць рэгіянальнай ці галіновай значнасці». Інакш кажучы, усе іерархічныя адміністратыўныя ступені ў дзяржаўным апараце ахоплены цалкам. Першая ступень для асоб урадавага ўзроўню, другая – узровень міністэрстваў, трэцяя – для чыноўнікаў абласнога і мясцовага рэспубліканскага ўзроўню.

Ордэн мае праект «Лепшыя людзі Расіі». Сэнс праекту палягае ў стварэнні тэлефоннага даведніка, у які ўваходзяць каардынаты некалькіх соцень знаных расійскіх палітыкаў, прадпрымальнікаў і фінансістаў. Крытэрый – «поспех у абранай сферы дзейнасці і прысутнасць патэнцыялу для далейшага развіцця, якія вызначаюцца непасрэдна Ордэнам Арла». Іншымі словамі, даведнік прызначаны толькі для сяброў Ордэна. Уключэнне ў даведнік «Лепшыя людзі» будзе азначаць рэкамендацыю стаць членамі «тэлефоннага» клуба расійскай эліты.

Гэтакім чынам, «Ордэн Арла» будзе стаяць над дзяржаўным апаратам і сам будзе яго фармаваць. Тут будуць прымацца рашэнні, ад якіх залежыць лёс кожнага палітыка, тут будуць зацвярджацца дзяржаўныя прызначэнні на адказныя пасады. Бо ордэн – «інстанцыя легітымацыі прафесійных палітыкаў».

«Ордэн Арла» стане фабрыкай па вырабу ўсёй намеклатуры краіны. Хоць, канечна, не адзінай. Тыя, хто прыняў рашэнне аб стварэнні гэтага ордэна, самі павінны былі ўваходзіць да гэтага ў нейкі ордэн таго ж ці іншага назову. Зразумела, што і ў самім фармуемым «Ордэне Арла» ёсць фармуючая яго сіла, гэта значыць унутраны ордэн.

Ну, а мільёны рабочых, сялян, нетытулаванай інтэлігенцыі – падпарадкаваная сіла, якой здаецца, што яна творца гісторыі.

### Ордэн Святога Канстанціна Вялікага

*«С благословения духовного Патрона Ордена Святого Константина Великого, Его Святейшества Петроса Седьмого, Православного Патриарха Александрии и всей Африки, я, Магистр ордена, признаю Благотворительное учреждение «Орден Константина Великого», созданное в Москве 13 мая 1996 года и зарегистрированное властями Москвы, – как Экзархат (Отделение) Международного Ордена Константина Великого в России со всеми правами и обязанностями согласно Конституции Ордена.*

*Москва, 18 августа 1997 г.*

***герцог Фредерик Бофорт-Спонтин, Магистр Ордена»***

«У Кодэксе гонару Канстанціна Вялікага ёсць такія словы: «Няхай добрыя людзі збяруцца для добрых справаў». Наша мэта – аб'яднаць дастойных людзей Айчыны для рэалізацыі надзённых задачаў: дапамога культуры, дапамога талентам, асветніцтва, адраджэнне духоўнасці, адраджэнне лепшых традыцыяў вялікай Дзяржавы.

Такія задачы па сілах толькі сапраўдным рыцарам, прычым, не адзіночкам, якія дзейнічаюць уразнабой, а менавіта – саюзу, ордэну падзвіжнікаў.

Калектыўны мецэнат – гэтак вобразна кажучы, мы бачым будучыню нашага Саюза кавалераў ордэна Канстанціна Вялікага».

За гэтымі ўзнёслымі словамі стаіць, аднак, праблема мецэнацтва, для якога патрэбна мець важкія сродкі. Дзе Ордэн мяркуе іх здабываць, хто выступіць пад маскай «калектыўнага мецэната»? Ці ўплыў вядомых кавалераў Ордэна ўжо дастатковы, каб стварыць фонд, адпаведны пастаўленым задачам? Прыкладам, члены Суда Гонару – Аляксей Ляонаў, Юры Любімаў, Эдуард Сагалаеў, граф Анатоль Тараноўскі.

Ганаровыя кавалеры Ордэна ў Расіі – Аркадзь Вольскі, Ілля Глазуноў, Юры Лужкоў, Зураб Цэрэтэлі, Вячаслаў Зайцаў. Усе яны палічылі вартым сфатаграфавацца ў ордэнскіх апанчах і са знакамі ордэнамі, і кожны мае магчымасць убачыць гэтых высакародных рыцараў і мецэнатаў на сайце, прысвечаным Ордэну.

Сярод дабрачынных праграмаў Расійскага аддзялення Ордэна плануецца распрацоўка і публікацыя нацыянальнай дактрыны Расіі ў новых гістарычных умовах – «Расійскі Маніфест», садзейнічанне аднаўленню царквы святых Канстанціна і Алены (выдаткі ацэньваюцца ў 1,5 мільёна даляраў), выданне альбома «Расійская царская дынастыя ў выяўленчым мастацтве і дакументах з прыватных калекцыяў».Гэтыя праекты, як няцяжка зразумець, маюць на ўвазе прыцягненне багатых спонсараў і інвестараў.

**Па матэрыялах прэсы**

# Любіць і кахаць па-беларуску



Фота У. Шлапак

Грамадства спажывання, якое падаецца як вышэйшае дасягненне прагрэсу, ад значыла дзень святога Валянціна, як і прадбачылася, рэкламай крамаў і пада рункаў, якія неабходна зрабіць тым, каго любіш, і тым болей – каго кахаеш. Прапагандуецца, што моц пачуццяў вымяраецца велічынёй выдаткаў. Насамрэч гэта зусім не так. Матуля сваіх дзяцей і дзеці матулю любяць бескарысліва, і малюнак на паперцы ад дзіцяці больш важкі, чым залаты ланцужок ад закаханага. Святы Валянцін падаваў узор любові кожны дзень. Гэты артыкул і прысвечаны ўзнёслай штодзённай працы сэрца – любові.

Тэма любові – вельмі надзённая тэма, аднак, яна вымагае асэнсавання: што любіць, каго любіць ці кахаць, дзе, калі, як. На жаль, у Беларусі сёння назіраецца, як сведчаць навукоўцы, дэфіцыт любові. Гэта асабліва праяўляецца ў нашых школах, дзе наглядаецца выбух недысцыплінаванасці, адна з прычынаў якой – дзіцячы голад па ўвазе і любві. Дэфіцыт любві і кахання даў свае адмоўныя вынікі і ў сацыяльнай сферы – колькасць разводаў перасягнула колькасць шлюбаў. І увогуле, якую сферу чалавечай дзейнасці ні вазьмі – паўсюдна бракуе любві.

Дык каго ж любіць найперш? У савецкія часы існаваў загад: «Раньше думай о Родине – а потом о себе». Гэта праявілася нават у напісанні адрасу на канверце: спачатку «Родина» – краіна, горад, а сам чалавек унізе; у напісанні імёнаў нашых – спачатку прозвішча, а потым імя. І да сёння жывуць людзі, якія імкнуцца ратаваць увесь свет, усю краіну, а ў сваёй кватэры не адрамантуюць звычайны водаправодны кран.

На шчасце, сёння арыенціры мяняюцца. Мы ўжо паставілі сябе на першае месца на канверце, часам пішам спачатку імя, потым прозвішча, у школах падчас рэлаксацыі дзеці хваляць адзін аднаго, называюць сябе і ўсіх прыгожымі, разумнымі, здольнымі.

Як жа любіць сябе? Успомніце, калі ласка, калі вы апошні раз гаварылі сабе слова любві? А калі вы гэта рабілі на роднай мове, на якой гаварылі ўсе вашы продкі, якія і сёння берагуць вас на роднай зямлі. Але яны берагуць нас вібрацыямі родных гукаў, родных слоў, магічнасцю беларускіх выразаў.

Як жа пачаць сябе любіць, калі вы забыліся, што гэта такое? Успомніце, як у нашай мове гучаць назвы вашай знешняй формы: валасы, бровы, вейкі, вусны, грудзі, клубы. Пашліце сваіму целу любоў і павагу, асабліва тым органам, якія ўжо сёння, як хворыя дзеці, сігналяць пра пэўныя праблемы.

Палюбіце сваё цела, характар, сваю пачуццёвую сферу, свой розум. Пахваліце сябе! Назавіце сябе не так, як мы прывыклі, – таўкач, боўдзіла, дурніла, лапух, карова, дубіна, балда іванаўна, шэльма, crazy, калека; а з шанаваннем – малайчына, разумнік, прыгажуня, талент, цуд, мурашачка, галава, творца.

Псіхолагі і педагогі сёння гавораць пра асаблівую важнасць любві да дзяцей. Самае першае, што вы можаце, – гэта гаварыць ім, што вы іх любіце, што вы іх будзеце любіць і тады, калі яны зробяць што-небудзь не так, будзеце любіць іх усё жыццё. Гаварыць штодзень столькі разоў, колькі можаце. Не адзін раз у тыдзень, у месяц, бо тады ў дзяцей наступае голад любві. Хваліце іх, называйце ласкавымі мянушкамі, якіх назапасіла наша мова ў вялікай колькасці: ластаўка, каток, ясачка, саколік, зайчанятка, сонейка, зорачка, кветачка, галубок, разумнік, любачка, здольнік. Прыдумайце свае назвы, уласцівыя толькі вашай сям'і, напрыклад, качанятка-пухнацік.

Спявайце дзеткам нашыя песні, калі трэба іх закалыхаць ці супакоіць, развесяліць ці заклікаць да працы – песні хутка перадаюць пачуцці любві. А яшчэ не забывайцеся дзетак гладзіць, абдымаць, цалаваць: матчыны, бацькавы, братавы, сястрыны рукі – гэта гаючыя лекі.

У вашым доме ці далёка знаходзяцца вашыя бацькі, хто ўвёў вас у жыццё, выгадаваў, быў падтрымкай. Вас акружаюць родныя, сваякі. Не забывайцеся на іх, любіце іх. Алгарытм любові нескладаны: прыхільнасць у дзеяннях, у думках, ласкавыя словы – татка, татухна, матуля, бабуля, бабця, дзядок, дзядулька, браточак, сястрыца. Тое ж самае з сябрамі, знаёмымі ці незнаёмымі людзьмі. Наша мова выпрацавала пашанотныя звароты: спадар, спадарыня, спадарычна (да незамужняй, дзяўчыны). Не забывайцеся, што ўжыванне памяншальна-ласкальных суфіксаў – асаблівасць нацыянальнага характару беларусаў. Нездарма нас суседзі называлі браткі-беларусы. Выразы браток ты мой, голубе, княгінька, каханенькія-родненькія, даражэнькі, сяброўчака (сябручок), суседачка замацаваліся ў нашай літаратуры. Вядома, саломку падсцілаць ці мёдам мазаць штохвілінна не будзеш, і наша мова прыдумала шмат іншых зваротаў: круцель, лапух, рыла, казёл, хмыр, рапуха, грыб, сыч, прыдзіра, салапяка і інш. Але забудзьцеся ў лютым на гэтае народнае багацце. Любіце!

Любіце свой горад, вёску, сваю краіну Беларусь, нашу Зямлю і свет і абараняйце, ахоўвайце іх так, як ратавалі б сваіх родных. Любіце ўсё, што бачыць вашыя вочы, што адчувае вашае сэрца. Бо гэта ўсё – Сваё, Маё. Наша зямля нараджала святых прыкладаў любві да Радзімы – Рагнеда, Каліноўскі, Купала, Караткевіч; да Бога – Еўфрасіння Полацкая, да маці – Пятрусь Броўка, да прыроды – Якуб Колас; да мовы – Максім Багдановіч, да падарожжаў – Янка Маўр. І ў нашай літаратуры мы знаходзім прыклад пяшчотнай ці мужнай любові: да бацькі – Рыгора Барадуліна «Бацьку», да людзей – «Memento mori» Янкі Брыля, «Знак бяды» Васіля Быкава, да жывёл – «Былі ў мяне мядзведзі» Уладзіміра Караткевіча, да дзяцей – «Новая зямля» Якуба Коласа.

Нашыя людзі не задаволіліся адным толькі словам «люблю» і стварылі яркае «кахаю». Сёння значэнне яго пачынае размывацца, гандаль нараджае «каханне з першай лыжкі» да кубікаў «Галіна-бланка». Але спрадвечна беларусы кахалі дзяўчыну, хлапчыну, сваю палавіну. Як іх можна не кахаць! З каханнем прыходзіць да нас вясна, радасць і шчасце.

Дзень святога Валянціна – дзень абмену беларускімі «валянцінкамі». Назапашце на ўвесь год кахальныя словы: для Яе – князёўна, багіня, каханенькая, ясачка, міленькая, ласачка, бярозка, ненаглядная, ластаўка легкакрылая, зорачка спагадная, гаспадынька, працаўніца, родненькая; для Яго – міленькі, любы, каханы, лось мой, анёл ясны, князюхна, ясакар, гаспадар, галава. Адкіньце прывычную лексіку: круцель, разявака, недарэка, абтрэпа, няздара, жмінда, скупяндa, гіцаль, шэльма, прыблуда, бадзяга, валацуга, абібок, торба, карузлік, гультаіна, кныр. Вы ўбачыце, якую чароўную сілу мае ласкавае слова кахання. І вы пераканаецеся, што ваш каханы (каханая) самыя лепшыя, бо яны – Вашыя. Вядома, можа ёсць нехта і лепшы, але яны – не Вашыя.

Не хапае Вам слоў – гартайце зборнік Генадзя Бураўкіна "Пяшчота", прысвечаны цалкам тэме кахання.

Любіце не толькі ў лютым. Любіце круглы год,бо толькі тады мы не будзем засмечваць сваю прастору брыдотай нянавісці і злосці. А на гэтай глебе, як ведаеце, нічога не расце, нават крапіва ды бадзяк. Любіце і кахайце па-нашаму, па-беларуску.

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ,**
**Алена ПІСАРЭНКА,**
**Наталля ДЗЯНІСАВА,**
**выкладчыкі БДУ культуры**

# Мы – 10 млн. інтэлігентаў

Дзіва, але штораз даводзіцца чытаць у расейскай прэсе выказванні наконт тонкай і інтэлігентнай беларускай натуры. Што ж, Расія пацыху сплачвае даўгі за самаахвярнасць Федаровіча і Сімяона Полацкага, гены Дастаеўскага і Шастаковіча, радаводы Глінкі ды Высоцкага. Нядаўна пачуў ад палякаў: у вас, кажуць, 10 мільёнаў інтэлігентаў. Агукаюцца-ткі Касцюшка з Міцкевічам, гэта адчуваецца. І, ладна, падумаўшы, варта згадзіцца: пра 10 мільёнаў – праўда.

Праўда тое, што Бог даў беларусам сціпласць і альтруізм, талерантнасць і ветлівасць, стрыманасць і ўзнёсласць адначасова, дэлікатнасць і ўдумлівую засяроджанасць як нацыянальны характар. Беларускія якасці яўна адпавядаюць агульнапрызнанаму ідэалу інтэлігента – так што ўсё проста. Беларусы не цярпяць гвалту, хамства, пыхі, грубасці. Для закамплексаваных і вечна пакрыўджаных – гэта слабасць, для вольных і мудрых – сіла. Сярод беларусаў звычайны, нават тыповы вінаваты выраз твару – а то ж, сапраўды інтэлігент заўжды адчувае сваю віну за ўсё, што адбываецца.

Менавіта таму, што ўвесь народ з'яўляецца носьбітам, свядомым ці падсвядомым, глыбока хрысціянскай ахвярнай, пакутнай, але адухоўленай і высокай нацыянальнай ідэі – беларуская інтэлігенцыя паўставала зноў і зноў. Нават пасля знішчальных войнаў, акупацыяў і эміграцыяў. Там, дзе іншым народам патрабаваліся дынастыі і стагоддзі спадчыннай арыстакратыі, Беларусь нараджала новую хвалю эліты з адным пакаленнем.

Інтэлігенцыя – заўсёды вораг імперыяў і дыктатураў. Якраз іх, адукаваных і творчых, паэтычных і духовых, імкнуліся фізічна вынішчыць усе захопнікі. Курапаты і Трасцянцы адсюль – ад імкнення пазбавіць гэты народ душы. Марна. З'яўленні новай інтэлігенцыі раптоўныя, цудоўныя і шматаблічныя – у нашаніўскай плыні, беларусізацыі 1920-х, у БНФ канца ХХ ст. – адраджалі Беларусь з настойлівасцю жыцця, якое верыць, любіць і ведае сваю мэту.

Суцэльная інтэлігентнасць – гэта каласальны патэнцыял нацыі. Для народа, які мае гены інтэлігентнасці, магчымы і небывалае абуджэнне, і сусветная культурная экспансія, і поўнае пераўтварэнне як сваёй саўковай падбітасці, так і еўрапейскага сытага застою ў веліч паўнакроўнага, натхнёнага жыцця. На жаль – і ў гэтым усё пытанне, – адной прыроджанай інтэлігентнасці недастаткова.

Гэта галоўная і прынцыповая праблема. Пад гэтым паняццем разумеецца ўсяго толькі свецкі эрзац праведнасці. Сучаснае чалавецтва баіцца зірнуць глыбей. «Інтэлігенцыя» – гэта з той жа оперы, што і «грамадства», «цывілізацыя» або «паліткарэктнасць». Паняткі насколькі туманныя і штучныя – настолькі і спекулятыўныя. Але да тых пор, пакуль мы будзем ускладаць усе спадзяванні на прагматычны розум ды гуманізм – і адраджэнне ў нас будзе паверхневым, культурніцкім, гатовым абамлець перад першай жа пагрозай.

Таму беларускай інтэлігенцыі мала толькі «заставацца інтэлігенцыяй». Мала скрышталізавацца ў эліту. Пара рабіцца чымсьці большым – голасам, душою, сумленнем. Паўнавартасным бел-чырвана-белым колерам нацыі – колерам ахвяры і ўваскрасення.

Людзі! – вы, хто ўмееце думаць, адчуваць, тварыць! Апроч нас з вамі гэтага ніхто зрабіць ня можа.

Сход інтэлегенцыі – спроба зрабіць. Бо каб уплываць і вырашаць, неабходна заявіць пра сябе. Пазіцыя вядомых людзей, скрышталізаваная ў словы і ідэі – у наш час аграмадная сіла. І ясна, што за вымаўленым словам павінна стаяць жывая дзея, самааддана, рашучасць і воля. Вось чаму я затое, каб у залі Сходу сабраліся людзі веры, а не разліку, шчырыя настаўнікі з глыбінкі, а не цэрбы апазіцыйны бамонд. Прадстаўляць 10 мільёнаў інтэлігентаў – гэта адказнасць, сувымерная з паняццем «нацыянальны гонар». Але, калі лічыць Сход вяршыняй, а не падножжам – уяўная самадастатковасць імгненна замкнецца ў зачараванае кола.

Насамрэч Сход – гэта старт з сённешняга праваду, Старт да вышыняў, туды, дзе ўсё прасцей і ясней: дзе інтэлект пераўтвараецца ў мудрасць, мары – ў надзею, дэлікатнасць – у любоў, інтуіцыя – ў веру, а сама інтэлігентнасць – у праведнасць.

**Павал СЕВЯРЫНЕЦ**

# З камп'ютэрам – па-беларуску

Камп'ютэр сёння – неад'емная частка жыцця, інструмент, з дапамогай якога пішуцца тэксты, ствараюцца выявы і відэакліпы, сумоўнічаюць людзі. Але, як кожны інструмент, камп'ютэр можа быць лепш прыстасаваны пад патрэбы карыстальніка. Паспрабуем зрабіць са звычайнага камп'ютэра камп'ютэр беларускі.

**Што мы маем напачатку?**

Уявім сабе толькі што набыты новы камп'ютэр. На ягонае жалезнае начынне пакуль не будзем звяртаць увагі (яно амаль усё зроблена на Тайвані, у Кітаі, Паўднёвай Карэі ды г.д.). У большасці выпадкаў на камп'ютэры ўжо будзе стаяць аперацыйная сістэма з сям'і Windows (Ўіндоўз, з ангельскай – Вокны). Найчасцей гэта лінія Win'9x (Windows 95, Windows 98, Windows 98SE, Windows ME), якая прызначана для хатняй працы, апошнім часам усё часцей можна сустрэцца з лініяй Win NT (Windows NT, Windows 2000, Windows XP). Пра тое, якая з іх усталявана на нашым камп'ютэры, мы даведаемся амаль адразу пасля таго, як уключым яго – у часе ладавання з'явіцца маляўнічы малюнак з назвай ды лагатыпам сістэмы. Зараз, у 2003 годзе на большаю частку новых камп'ютэраў ставяць рускамоўныя версіі Windows 98SE альбо Windows ME, на моцныя (і, адпаведна, дарагія) камп'ютэры таксама часта ўсталёўваюць Windows XP ці Windows 2000. Сустракаюцца і іншыя сістэмы (MacOS, Linux, OS/2, Unix), але на хатніх камп'ютэрах яны пакуль рэдкія госці. Далей будзем працаваць з Windows 98SE альбо Windows ME, але збольшага ўсё далей сказанае можна будзе выкарыстаць і для іншых версіяў Windows.

**Скажыце: А... Ў... І**

Самае першае, што патрэбна для працы з беларускімі тэкстамі, гэта беларуская раскладка клавіятуры. Часцей за ўсё на набытым камп'ютэры ёсць толькі ангельская (бо ўсе камп'ютэравыя каманды набіраюцца па ангельску) ды расейская (бо яна ў рускамоўных сістэмах ставіцца аўтаматычна) раскладкі. Можна папрасіць супрацоўнікаў крамы ці фірмы, дзе вы купляеце камп'ютэр, каб яны вам усталявалі беларускую раскладку, а можна зрабіць гэта самастойна. Шчоўкнем мышшу па індыкатары раскладкі – квадрацiку (звычайна ён сіні) у правым ніжнім куце экрана. Калі ў спісе магчымых раскладак беларускай няма (яна абазначаецца літарамі «BE»), трэба шчоўкнуць па індыкатары правай кнопкай мышы і ў меню абраць пункт «Настройкі» (у ангельскамоўнай версіі – «Property»). З'явіцца вакно настройкі клавіятуры, у якім трэба абраць са спісу ды дадаць да ўсталяваных беларускую раскладку. Таксама ў гэтым вакне мы можам прагледзець ды змяніць іншыя настройкі, напрыклад, як мы будзем пераключацца паміж рознымі раскладкамі. Націскаем кнопку «Ок». Можа здарыцца, што пасля гэтага камп'ютэр можа запытацца, дзе знаходзіцца дыстрыбутыў (усталёвачныя файлы) Windows. Шукаем, дзе на дыску камп'ютэра знаходзяцца шмат файлаў, імёны якіх пачынаюцца з «win», а сканчаюцца на «.cab» (напрыклад, такія, як «win_19.cab» ці «win98_26.cab») і накіроўваем камп'ютэр туды. Калі дыстрыбутыва на дыску няма, ідзем у краму ці да сяброў па кампакт-дыск з дыстрыбутывам вашай версіі Windows і паўтараем усё ад пачатку. Усё, зараз можам набіраць беларускія тэксты (падказка тым, хто раней не працаваў з беларускімі тэкстамі – літара «і» знаходзіцца там, дзе расейскае «и», «ў» – на клавішы «щ», апостраф – на клавішы «ъ»).

**Нацыянальнасьць, прапіска**

Так, у сістэмы таксама ёсць настройкі, падобныя на нацыянальнасць ды прапіску – гэта галоўная мова сістэмы ды размяшчэнне камп'ютэра. Рускамоўныя версіі Windows робяцца найперш для Расіі, таму пры ўсталёўцы аўтаматычна прапаноўваюцца расійскія настройкі, а шмат хто з тых, хто ставяць сістэмы на новыя камп'ютэры, лянуюцца змяняць іх на нашыя. Зараз мы гэта выправім. Знаходзім на «Панэлі кіравання» раздзел «Язык и национальные стандарты» («Regional settings»). Абіраем мовай сістэмы беларускую, а краінай, у якой знаходзіцца камп'ютэр, – Беларусь, і націскаем «Ок». Што пасля гэтага змянілася? Знешне, асабліва, калі мы працуем з Windows 98, амаль нічога. Мова сістэмы не звязаная з клавіятурай, яна ўплывае на тое, як камп'ютэр будзе паказваць даты, час, якія адзінкі вымярэння будуць выкарыстоўвацца. На больш новых сістэмах (ME, XP) ужо цікавей – назвы дзён тыдня ды месяцаў пасля гэтага будуць пісацца па-беларуску. Згадзіцеся, ужо прыемна. Далей, некаторыя з праграмаў (напрыклад, праглядчык графічных файлаў XnView) пры ўсталёўцы адразу пачнуць карыстацца беларускай мовай. А калі мы будзем карыстацца інтэрнэтам, то аўтары сайтаў, якія мы будзем наведваць, не атрымаюць памылковай інфармацыі аб сваіх наведніках, а з часам мы зможам аўтаматычна атрымоўваць інфармацыю ды карыстацца з паслугаў, прызначаных канкрэтна для нашай краіны (напрыклад, калі мы зойдзем на папулярны пошукавы сервер www.google.com, ён аўтаматычна загрузіцца ў беларускамоўным варыянце).



**Зверым гадзіннікі!**

Зараз паглядзім, у якім гадзіннікавым поясе знаходзіцца наш камп'ютэр. Навошта, калі час усё роўна паказваецца дакладна? Ну, напрыклад, калі мы будзем кантактаваць праз інтэрнэт з людзьмі з іншых краінаў (асабліва, вельмі далёкіх), яны будуць арыентавацца на тое, колькі ў нас зараз часу, карыстаючыся менавіта гэтай інфармацыяй. Шчоўкаем правай кнопкай мышы па гадзінніку ў правым ніжнім куце экрана і абіраем у меню пункт «Свойства». Наш пояс – «Афіны, Кіеў, Мінск, Стамбул GMT+2», што азначае, што наш час адрозніваецца ад грынвічкага на 2 гадзіны.

**Макіяж**

Напрыканцы, калі мы ўмеем працаваць з графічным рэдактарам, можам дадаць сваёй сістэме індывідуальнасці. Знаходзім (хутчэй за ўсё на дыску «C:/») файл «logo.sys». Захоўваем на ўсялякі выпадак яго копію і пераймяноўваем яго ў «logo.bmp». Калі такога файла няма, ствopым яго самі. Гэта застаўка, якую мы бачым, калі чакаем, пакуль загрузіцца Windows 98 (ці ME, у сістэмах NT усё значна складаней). Адчыняем яе ў любым графічным рэдактары і змяняем, як хочам. Звяртаем увагу, што малюнак застаўкі захоўваецца сціснутым па гарызанталі (памерам 320 на 400 кропак), перад рэдагаваннем лепш пашырыць яго, а пасля зноў сціснуць. Не трэба пужацца, крыху спрыту, і ў нас усё атрымаецца. (Парада: не варта ставіць застаўкаю свой здымак, вельмі хутка надакучыць, лепш знайдзіце прыгожы краявід, ці зорнае неба.) Атрыманы файл зноў перамяноўваем у «logo.sys» і перапісваем яго на дыск «C:/». Калі пры загрузцы застаўкі няма, адчыніце ў тэкставым рэдактары файл «msdos.sys» ды паглядзіце, ці няма там радка «logo=0». Калі ёсць, змяніце яго на «logo=1». Калі спадабалася, можна такім жа чынам паэксперыментаваць з файламі «logos.sys» і «logow.sys». На жаль, іншай карысці, апроч эстэтычнага задавальнення, ад гэтых упрыгожванняў няма.

**Юрась НОВІКАЎ**

## Апытанне

Кожны год дзесяткі тысяч юнакоў і дзяўчат пакідаюць школу і перад імі паўстае пытанне далейшай вучобы ці працаўладкавання, а грамадству прыходзіцца вырашаць значныя сацыяльныя праблемы – ад стварэння рабочых месцаў да барацьбы з крымінальнымі групоўкамі, якія папаўняюць свае шэрагі рэкрутамі з беспрацоўнай моладзі.

Гэтае апытанне прысвечана стаўленню маладых людзей да праблемы працаўладкавання, вучобы, вольнага часу, пошукаў свайго жыццёвага часу. Хто ім спрыяе і што не спрыяе сарыентавацца ў «дарослай» рэчаіснасці?

За базавы характэрны рэгіён абраны мінскі раён Серабранка, але праблема «моладзь – праца – вольны час» паўсюдная, і мы просім удзельнічаць у апытанні дзяўчат і юнакоў з усіх гарадоў - буйных і невялікіх. Трэба ведаць абставіны, каб мяняць свой лёс.

### *Моладзь: праца, вучоба, беспрацоўе, вольны час*

1. Імя і ўзрост ______________________

2. Вучуся (у школе, ПТУ, каледжы, ВНУ) ______________________

3. Паступіў(ла) у ______________________

4. Працую (кім) ______________________

5. Не працую на працягу ______________________

6. Не магу знайсці працу па душы і з добрымі ўмовамі ______________________

7. Хацелася б працаваць (кім, дзе) ______________________

8. Колькі, на Ваш погляд, трэба зарабляць маладому несямейнаму чалавеку? ______________________

9. Дзе Вы болей праводзіце вольны час (у бібліятэцы, за камп'ютэрам, на дыскатэках, на вуліцы з сябрамі) ______________________

10. Вашы блізкія сябры (удачліва працуюць, не могуць знайсці працу, вучацца, патрапілі ў нядобрую кампанію) ______________________

11. Дзе б хацелася жыць у выпадку вольнага выбару? ______________________

12. Ці хацелі б вучыцца ў Беларускім нацыянальным універсітэце з навучаннем на беларускай мове? ______________________

13. Што можна змяніць у вашым жыцці, каб яно палепшылася? ______________________

**Запоўненыя анкеты дасылайце на адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13, рэдакцыя «Новага Часу» Абагульненні будуць апублікаваныя.**

## Апісанне розных версіяў Windows

**Лінія Windows 9x** – сістэмы для хатняга карыстання

**Windows 95**

Windows у рэдакцыі 1995 года. Першая версія Windows як самастойнай ды самадастатковай аперацыйнай сістэмы. Сёння ўжо нt здольная працаваць з самымі новымі праграмамі, затое можа працаваць на старых камп'ютэрах.

**Windows 98**

Windows у рэдакцыі 1998 года. Новая, палепшаная версія Windows.

**Windows 98SE**

SE – Second Edition. Другая рэдакцыя Windows 98. Новая, выпраўленая і палепшаная версія Windows 98. Дасёння – самая стабільная версія з сям'і Win 9x.

**Windows ME**

ME – Millenium Edition. Windows у рэдакцыі Міленіума (2000 г.). Апошняя версія з сям'і Win 9x. Мае болей магчымасцяў за папярэднія версіі, але і болей праблемаў у працы. Падобная (але толькі выглядам) да Windows NT.

**Лінія Windows NT** – сістэмы для прафесійнага карыстання, якія больш надзейныя ды здольныя лепш выкарыстоўваць магчымасці самых моцных камп'ютэраў, але адначасова больш складаныя для карыстання ды больш патрабавальныя да камп'ютэра.

**Windows NT 3.5**

Першая версія Windows NT з новым знешнім выглядам.

**Windows 2000**

Версія Windows NT 2000 года. Перапрацаваная ды палепшаная ў 2000 годзе версія Windows NT. Самая надзейная з усіх Windows.

**Windows XP**

XP – XPirience. Windows з вопытам. Крыху зменeная Windows 2000.

Галоўнае адрозненне – каб прывабіць непрафесійных і даверлівых карыстальнікаў, быў моцна зменены ды ўпрыгожаны знешні выгляд.

# N.R.M. «Дом культуры»

Добрую палову новага альбома культавага беларускага гурта «N.R.M.» слухачы ўжо змаглі пачуць на шматлікіх канцэртах у рамках прамоўшэн-кампаніі, якая была праведзена ў падтрымку навінкі ад «N.R.M.» – альбома «Дом культуры». Здавалася б, чакаць асаблівых адкрыццяў не прыходзіцца. Але дыск ужо з'явіўся ў музычных крамах, і ёсць нагода паразважаць над тым, што сабой уяўляе чарговы твор культавай каманды.

Першы падарунак аматарам беларускай фанаграфіі – 20-хвілінны арыгінальны відэафайл «Сакрэтныя матэрыялы». З яго лічбавых дарожак мы можам даведацца пра хаду легендарнага гастрольнага тура «N.R.M.» па Беларусі, які быў ажыццёўлены музыкамі ў 2001–02 гадах, а таксама тое, чым займаюцца ўдзельнікі гурта ў часе гастрольных пераездаў з адной мясцовасці ў другую. Відэафайл утрымлівае шэраг жартаў, прыколаў у выкананні вясёлых музыкаў гурта, а таксама сюжэт, які распавядае пра хаду конкурсу сярод рэчыцкіх фанатак на самы пры-



гожы бюст...

Але самы вялікі сюрпрыз – сатырычная п'еса, зафіксаваная на дыску «Дом культуры». Яе фабула пабудаваная на перажываннях адказных асоб віртуальнага Ёцавіцкага дома культуры з нагоды прыезду на гастролі гурта «N.R.M.» у гэтае места. З вопыту папярэдняга альбома «Тры чарапахі» вядома, як патрабавальна музыкі «N.R.M.» і іх лідар Лявон Вольскі адносяцца да ўсіх стылявых і сэнсавых нюансаў свайго постмадэрнісцкага тэксту для стварэння адпаведнага літаратурна-музычнага кантэксту.

Але «Дом культуры» ў гэтым сэнсе пераўзыходзіць усе чаканні. Здаецца, выцягні адну літаратурную мініяцюру з канвы твора і ўся архітэктоніка альбома рассыпецца...

А каб пасапраўднаму ацаніць усе нюансы пастаноўкі (а менавіта так трэба ўспрымаць літаратурна-музычныя трэкі), прапануем вам услухацца ў такую знаёмую трасянку загадчыцы клуба (роль выканала Г.Вольская), у правінцыйную безнадзейнасць кіраўніцы тэатральна-музычнага гуртка (В.Бабак), у пост-алкагольнае трызненне клубнага электрыка (С.Кананович).

З музычнага пункту гледжання альбом «Дом культуры» з'яўляецца лагічным працягам альбома «Тры чарапахі» ды арыентаваны на самыя сучасныя стылістычныя адгалінаванні гітарнага new-metal, hardcore, grunge, industrial, у той жа час у музыцы гурта выразна праслухоўваюцца такія знаёмыя фальклорныя матывы, якія заўжды былі характэрныя «N.R.M» («На беларускіх дарогах», «О-о, гэта ўсё»)

Але, нягледзячы на агульную сатырычную скіраванасць дыска, кружэлка мае некалькі сур'ёзных канцэптуальных твораў. Яны, з часоў хіта «Я – рок-музыкант», вызначаюць пазіцыю «энэрэмаўцаў» адносна самых складаных маральных і этычных праблем. Таму, можна смела сказаць: песні «Маё пакаленне», «Вайна», «Фабрыка» (іншая назва «Выбіраеш-выбірай») – лепшыя творы альбома, якія пакідаюць слухачам прастору для роздуму і філасофскіх рэфлексій. Але, бадай, сама моцна на альбоме прагучала песня Лявона Вольскага з легкаважнай назвай «Лёгкая-лёгкая». У ёй слухач адчуе і боль асабістых стратаў аўтара песні, і адгалоскі ўласнага mid-life crisis, і глабальныя сентэнцыі, кшталту: «Збірай сяброў, запальвай газ. Усё стагоддзе – дэкаданс!» Сапраўды дзіўная, мінорная мелодыя, якая «падкладзена» пад рытмова-ударны metal-рытм бубнаў Алега Дземідовіча і бас-гітары Юрася Ляўкова.

Паколькі навінка датаваная 2002 годам, то можна казаць пра яе вылучэнне ў намінацыі «лепшы альбом года» на будучай «Рок-каранацыі». Тады лёс першага месца ў ёй можна будзе лічыць перадвызначаным.

Хочацца дадаць, што для пашырэння слухацкай аўдыторыі альбома «Дом культуры» і беларускамоўнай музыкі сярод моладзі – студэнтаў, шкаляроў ды іншых малазабяспечаных элементаў, выдавецкі лэйбл «Westrecords» выдаў больш танны варыянт. Без п'есы ды мультымедыя. Так што «выбіраеш-выбірай», як спявацца ў адной з песень гурта на гэтым альбоме!

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**



## Нататнік турыста

# *Наступнікі капітана Флінта*

Пераход чалавецтва ў XXI стагоддзе не пазбавіў яго ад мноства ганебных заганаў, у прыватнасці – ад піратства.

Згодна з дакладам Аналітычнага цэнтра па праблеме піратства Міжнароднага марскога бюро, у 1999 годзе ў свеце было зарэгістравана 300 выпадкаў, у якіх выявіліся піраты. У 2000 годзе адзначана 469 такіх выпадкаў, але ў 2001 годзе адбылося зніжэнне актыўнасці марскіх рабаўнікоў – 263 выпадкі нападаў на караблі. Аднак, згодна з ацэнкамі экспертаў, становіцца вядомы толькі адзін з трох нападаў. Узрастае і жорсткасць піратаў. У 1994 годзе не загінуў ніводзін член экіпажа пацярпелых караблёў, а ў 1995 і 1996 гадах загінулі па 26 чалавек, у 1997 годзе піраты забілі болей за 50 маракоў.

Існуе і новая праява піратства – крадзеж даверaных грузаў з выкарыстаннем караблёў з пірацкімі экіпажамі і фальшывымі дакументамі на рэгістрацыю (гэтак званыя «фантомныя караблі»). Пасля продажу крадзенага караблю даюць новае імя, наноў фарбуюць і рэгіструюць пад іншым сцягам.

На Філіпінах піратства мае прыхаваную падтрымку з боку ўладаў – найперш з-за жабрацкіх заробкаў марскіх афіцэраў, якія таму займаюцца марскім рэкетам. У Самалі наогул піратствам адкрыта займаецца служба берагавой аховы, і таму гандлёвыя караблі не рызыкуюць набліжацца да пабярэжжа Самалі бліжэй за 50 міляў. Кітайская марская паліцыя пад выглядам барацьбы з кантрабандай наркотыкаў таксама займалася рабаўніцтвам, выдаючы свае грахі за справу піратаў.

Штогадовая здабыча флібусцьераў – 450 млн. даляраў.

**Рафал КАМІНСКІ**

# *Пізанскія тайны*

За пяцьсот метраў ад знакамітай Пізанскай вежы знойдзены сапраўдны скарб – абсалютна цэлы старажытнарымскі баявы карабель даўжынёй 12 метраў. Па словах экспертаў, «гэта найлепш захаванае судна з антычных часоў, з усіх што былі знойдзеныя». Вёсельнае судна з арміраваным носам, які выкарыстоўваўся як таран, здабылі з ілу, у якім яно праляжала дзве тысячы гадоў. Менавіта іл захаваў яго ў некранутым стане. Карабель пакрылі шклопластыкам і накіравалі ў рэстаўрацыйную майстэрню.

Рэстаўрацыя зойме прыкладна чатыры гады, пасля чаго карабель будзе экспанавацца ў новым пізанскім Музеі старажытных караблёў на ганаровым месцы.

Сучасная Піза стаіць на рацэ Арно (вышэй па плыні – Фларэнцыя) у некалькіх мілях ад берага Міжземнага мора. Але дзве тысячы гадоў таму Піза знаходзілася непасрэдна на марскім узбярэжжы, якое было парэзана сеткай рэчак і каналаў, і паходзіла болей на Венецыю.

У самым сэрцы горада знаходзілася Ракушачная гавань – знаны порт Міжземнамор'я. Назву гавані ведалі, але яе дакладнае месцазнаходжанне доўгі час заставалася загадкай. І толькі некалькі гадоў назад пры будаўніцтве ў цэнтры Пізы быў знойдзены карабель. Работы спынілі, археолагі раскапалі слой ілу, у якім шэрагам ляжалі караблі. У грузавых суднах знайшлі сотні амфар, якімі карысталіся для перавозкі садавіны, маслін, віна і масла, а таксама знайшлі косці кабана, козаў і льва. Чаму караблі былі неразгружаныя, што прымусіла кінуць іх без нагляду, якое бедства абрынулася ў той час на Пізу – загадка, якую яшчэ належыць разгадаць археолагам і гісторыкам.

**Пётр ПОФЕМ**

# Традыцыя лонданскай хірургіі

У Англіі, на беразе Тэмзы недалёка ад Чэлзі, знойдзены незвычайны чалавечы чэрап. Датыроўка па вугляроду падказала, што чалавек жыў у 1750–1610 гадах да новай эры, гэта значыць каля 4.000 гадоў таму. Але незвычайнасць палягае не ва ўзросце знаходкі, а ў асаблівасці штучнага паходжання. Археолагаў найбольш зацікавіла дзірка ў чэрапе памерам 4 на 3 см. Вакол яе няма расколінак, а значыць, немагчыма гаварыць пра яе паходжанне ад удару нейкай зброяй. Наадварот, скошаны край неаспрэчна сведчыць, што чалавек зведаў прымітыўную трэпанацыю чэрапа, і такім чынам можна лічыць, што быў пацыентам старажытнага хірурга высокай кваліфікацыі. Падставы для хірургічнага ўмяшальніцтва маглі быць розныя.

У старажытнасці лічылася, што трэпанацыя дапамагае знізіць ціск і пазбавіць ад невыносных боляў у галаве, прыкладам, ад мігрэні. Тады меркавалі, што галоўнай прычынай захворванняў і асабліва эпілептычных прыпадкаў з'яўляюцца злыдні і што калі зрабіць у чэрапе адтуліну, яны пакінуць хворага і яму стане добра.

Аперацыя, як выявілі даследчыкі, была зроблена з дапамогай скрабка з крэмню. Пацыенту, варта адзначыць, было б невыносна вытрываць пакуты шматгадзіннай аперацыі без выкарыстання нейкіх наркатычных сродкаў. Потым, як паказала даследаванне чэрапа, адтуліна пачала зарастаць, а значыць, чалавек перажыў такое рызыкоўнае механічнае ўмяшальніцтва. Ён мог жыць з адтулінай у галаве шмат гадоў, бо мозг неадчувальны да болю, хоць, зразумела, адчувальны да змены надвор'я. Гэта не першая знаходка чарапоў са слядамі працы тагачасных хірургаў. У Англіі знойдзена каля 40 трэпанiраваных чарапоў. Самы старадаўні датуецца эпохай неаліту, ён старэйшы за новую знаходку на 1.000 гадоў. Варта падзівіцца, што 5 тысяч год таму, на пачатку цывілізацыяў, людзі мелі багаты медычны досвед.

Цяпер чэрап са слядамі трэпанацыі можна будзе пабачыць у Лонданскім музеі.

**Рышард СКОБЛА**



**Падпісны індэкс 63773**

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас:220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
E-mail: nchas@promedia.by

Рэдактар нумару Канстанцін Тарасаў
Камп'ютэрная вёрстка Андрэй Дзецяроў

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
220004, Мінск, вул. Кальварыйская, 24. Замова № 165
Падпісана да друку 19.02.2003 (12:00).
Наклад 2 150 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе: Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11